PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 19 (2087) Год XLI Беласток 12 мая 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)



Мікола Ваўранюк

# Менск — 26 красавіка

**Дэманстранты ненавідзяць прэзідэнта. Моладзь хоча біцца з міліцыяй. Арганізатары стараюцца не дапусціць да крывавай сутычкі.**

Пачатак арганізаванага апазіцыяй шэсця „Чарнобыльскі шлях—96" быў вызначаны на 17 гадзін каля Акадэміі навук. Менскі гарадскі выканаўчы камітэт не даў дазволу на правядзенне маніфестацыі. Навучаныя вопытам 2-га красавіка — калі міліцыя не пусціла на месца сходкі, плошчу Незалежнасці — людзі пачалі збірацца гадзіну раней.

Сярод сабраных прадаюцца і раздаюцца газеты, свечкі. Сёй-той раздае бел-чырвона-белы сцяг. Паяўляюцца вядомыя палітыкі, як хаця б дэпутаты Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч і Генадзь Карпенка.

У натоўпе спакойна ходзяць міліцыянты. Усміхаюцца, жартуюць, некалькі разоў праз мегафоны асцерагаюць, каб не таптаць траву, каб зрабіць праход. Ніхто не звяртае на іх асаблівай увагі.

А пятай гадзіне паабапал праспекта Скарыны ўжо мора народу. Над ім другое мора — сцягоў. Усюды робіцца бел-чырвона-бела, а між тым чорныя жалобныя харугвы са знакам ядзернай энергіі і назвамі найбольш пацярпелых ад радыяцыі раёнаў. Некаторыя дэманстранты абвязваюць галовы такімі ж павязкамі. Насупраць нас, па другім баку вуліцы разгортваецца сіне-жоўты сцяг, а побач яго чырвона-чорны знак украінскіх нацыяналістаў УНА-УНСО. Пераапранутыя за чорных варанаў, з вялікай чорнай казой і са звонам выходзяць студэнты Мастацкай акадэміі.

Міліцыя прапануе разысціся або па тратуарах прайсці на месца афіцыйнага мітынгу, які з удзелам прэзідэнта якраз праходзіць у парку Дружбы народаў. У адказ свісты і смех. Народ выходзіць на праспект. З сярэдзіны паходу не відаць ні пачатку, ні канца. Наша група расплываецца.

Застаўшыся ўдваіх з Ленай Глагоўскай, пільнуемся, каб не згубіцца, аж да заваршальнага мітынгу.

### Першая лупцоўка

Дэманстранты скандуюць **„Жыве Беларусь!"** наперамен з **„Далой Луку!"** Побач нас вялікія транспаранты: **„Ганьба манкуртам, якія прадаюць нашую незалежнасць"** і **„Чарнобыль, лукашызм і абыякавасць даканаюць Беларусь"**. Увагу фотарэпарцёраў прыцягваюць прыгожа размаляваны арол з дзвюма вусатымі галовамі Лукашэнкі і подпіс пад ім: **„Духоўны мутант"**.

У натоўпе адчуваецца напружанасць, але і рашучасць, заядласць. Асабліва сярод моладзі, якая падзею ўспрымае ў катэгорыях хэпэнінгу, а да ўладаў ставіцца без ніякай пашаны.

На плошчы Якуба Коласа галава калоны дэманстрантаў спыняецца. Праходзім дапераду, каб убачыць прычыну затрымкі. Тым часам народ ужо раве: „ганьба", „халуі", „дармаеды"! Выхад з плошчы па праспекце Скарыны загароджваюць некалькі радкоў міліцыі, за высокімі, амаль у рост чалавека, металёвымі шчытамі. Міліцыя пачынае лупіць здаравеннымі дубінкамі ў шчыты. Лідэры спрабуюць дагаварыцца. Больш палкім хочацца пабіцца. Арга-

*(працяг на стар. 4)*

## Заява Беларускага саюза

*Беласток, 27.04.1996 г.*

**Беларускі саюз у Рэчы Паспалітай выказвае рашучы пратэст у сувязі з жорсткімі дзеяннямі ўлад Рэспублікі Беларусь, накіраванымі супраць удзельнікаў мірнай маніфестацыі ў Менску 26 красавіка 1996 г. у дзесятую гадавіну катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.**

**Варварскія дзеянні міліцыі ў адносінах да дзяцей, моладзі, жанчын, апазіцыйных палітыкаў выклікаюць у нас самыя жудасныя асацыяцыі. Такі спосаб вырашэння ўнутраных праблемаў супярэчыць прынцыпам дэмакратыі і нормам, якія абавязваюць у цывілізаваным свеце.**

**Патрабуем спынення праследаванняў і вызвалення незаконна арыштаваных асоб.**

**Старшыня**
**Беларускага саюза ў РП**
**Яўген Вапа**

Славамір Кулік

## Жыццёвы выбар

Неўзабаве, як штогод, васьмікласнікі закончаць сваю адукацыю на пачатковым узроўні. Гэта самы доўгі этап у жыцці маладых людзей, паколькі чатырнаццаці- і пятнаццацігодкі правялі ўжо на абавязковай навуцы дзевяць гадоў. На маю думку пачатковая адукацыя павінна канчацца на шостым класе, а далей вучні павінны рыхтавацца да навукі ў прафесіянальна-тэхнічных або сярэдніх матуральных школах.

Я ў гэтым годзе з'яўляюся выхаваўцам VIII класа Пачатковай школы ў Дубічах-Царкоўных. У ім вучыцца дванаццаць вучняў з шасці вёсак. Са сваімі выхаванцамі часта размаўляю аб выбары імі будучай прафесіі. Гэта вельмі важная справа, паколькі праца займае чалавеку адну трэціну ягонага жыцця. Выбар прафесіі адпаведна здольнасцям вучня — гэта асноўная справа, тым больш што сёння гонка да лепшага жыцця пачынаецца з экзаменаў у сярэднія школы. Штораз больш маладых людзей усведамляе сабе факт, што адпаведна выбраная сярэдняя школа — гэта пропуск у вышэйшыя навучальныя ўстановы і шанц знайсці цікавую і высокааплатную працу ў дарослым жыцці. Але падабраць адпаведную школу справа няпростая, таму бацькі і настаўнікі павінны зрабіць усё, каб дапамагчы дзецям прыняць аптымальнае рашэнне. Найлепш, калі рашэнне аб выбары школы прымаецца супольна, а не насуперак волі дзіцяці. Дапамагчы ў гэтым можа шчырая, партнёрская размова або візіт у выхаваўча-прафесіянальнай кансультацыі. Немалая роля выпадае таксама на долю класнага выхаваўцы, які павінен інфармаваць вучняў аб станоўчых і адмоўных баках пасобных школ і прафесій, а таксама арганізаваць сустрэчы і экскурсіі.

Экскурсію васьмікласнікаў у сярэднія школы Гайнаўкі планавалі мы ўжо даўно, але перашкодзіла нам вострая зіма. Паехаць змаглі мы толькі 2 красавіка. З Комплексам прафесіянальных школ пазнаёміў нас намеснік дырэктара інж. Генрык Маліноўскі. Вучыцца тут амаль 1300 вучняў. У гэтым годзе ў тэхнікум будзе прынята 90 чалавек (60 — механічны клас, 30 — дрэваапрацоўчы), а ў прафесійную — 180 (па спецыяльнасцях: сталяр — 60, токар — 30, слесар — 30, шматпрафесійны клас — 60). Школа працуе на дзве змены: раніцай займаюцца вучні тэхнікума, пасля абеду — навучэнцы прафтэхшколы. Ва ўсіх працаўнікоў і вучняў прышпілены да грудзей ідэнтыфікацыйныя карткі са здымкамі. У холе школы вісіць дэталёвая інфармацыя аб наборы выпускнікоў пачатковых школ у першыя класы. У школе працуюць гурткі галантарэі ды інтарсіі, аркестр, а таксама валейбольная і баскет-

*(працяг на стар. 8)*

# Мы прачыталі

*Ogół społeczeństwa to właśnie państwo,* — сказаў Рышард Мязэк, новы шэф польскага тэлебачання.

*Utożsamianie społeczeństwa z państwem należy do tradycji faszystowskich,* — сказаў Ежы Урбан, рэдактар штотыднёвіка „Nie".

*Gazeta Wyborcza, nr 90*

* * *

*Rada Nadzorcza telewizji wybrała najgorzej jak mogła. Nowy szef telewizji Ryszard Miazek jest politykiem PSL, byłym rzecznikiem rządu Waldemara Pawlaka, pracownikiem ideologicznym peerelowskiego ZSL, nigdy też nie pracował w telewizji. Wcześniej był agronomem, zootechnikiem, dziennikarzem pisma „Plon". Prezes telewizji zarabia ponad 100 milionów, dziennikarze po 50-60 milionów.*

*Kurier Poranny, nr 93*

Такім чынам плата ў краіне набліжаецца сёння да 6 мільёнаў.

* * *

*Przy względnej niezależności w polityce wewnętrznej władze Białorusi prowadzą politykę samowynarodawiania.*

*Cash, nr 14*

* * *

*Słonina jest jednym z najbardziej widocznych czynników łączących Białorusinów, Rosjan i Ukraińców. Do tej pory trwają zażarte dyskusje na Białorusi, czy lepsza jest słonina ze świń karmionych kukurydzą i pszenicą z ukraińskich stepów, czy słonina ze świń białoruskich tuczonych owsem i ziemniakami. Szef białoruskiej partii nacjonalistycznej Prawy Rewanż Sławomir Adamowicz uważa, że białoruska słonina jest najlepsza. Jej wartość smakową podnosi jeszcze bardziej setka białoruskiej harełki. Prawdziwi smakosze potrafią do słoniny dobrać odpowiedni gatunek wódki rodzimej produkcji. Polskie pojawiają się w sklepach rzadko, ukraińskie uchodzą za niedobre, rosyjskie za podrabiane. Do słoniny ze wschodu — cienkiej — pasuje twarda ludowa wódka „Zwieraboj", do słoniny z Polesia — grubej — najlepszy jest samogon, do grodzieńskiej oczywiście wódka „Białowieska", a do ekologicznej z północy — elitarne gatunki białoruskich wódek jak „Krysztal" i „Biełaja Ruś". Konsumpcja wódek ze słoniną ma tę zaletę, iż wódki nie trzeba już zapijać,* — піша Уладзімір Пац.

*Życie Warszawy, nr 77*

* * *

*Я з адзнакай закончыў гістарычны факультэт. Я вельмі добра ведаю факты, дакументы. Аб утварэнні БНР я ведаю. Ведаю, хто спрыяў гэтаму,* — сказаў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка.

*Голас Радзімы, н-р 15*

Віншуем са знакамітай адукацыяй!

* * *

*Najsłabszym miejscem Polski jest obecnie prosowieckość polskich elit politycznych i urzędniczych, podyktowana najczęściej zwyczajną agenturalną zależnością od centrali w Moskwie. Wałęsa z sobie tylko znanych powodów postanowił oprzeć się na starych, komunistycznych kadrach, szkolonych w moskiewskich szkołach. Gdzie znajduje się faktyczny ośrodek kierowania życiem politycznym Polski, w Warszawie czy Moskwie?* — разважае газета Антоні Мацярэвіча, былога міністра ўнутраных спраў.

*Głos, nr 42*

* * *

*Jestem zdania, że reform ustrojowych już więcej w Polsce nie będzie. Nie ma liczących się sił zainteresowanych ich wprowadzaniem,* — сказаў Ежы Бачынскі, галоўны рэдактар „Polityki".

*Gazeta Wyborcza, nr 91*

* * *

*Członkowie białostockiego Towarzystwa Gimnastycznego „Sokół" marzą o utworzeniu kompanii militarnej. Organizacja wspomagana jest także finansowo — przez rządzącą w Białymstoku koalicję „Jedność". Członkowie „Sokoła" wydzierżawili schron w centrum miasta przy ul. Białówny. Jest tam też worek bokserski, a na ścianach wiszą mundury koloru khaki... Chcemy dążyć do Polski wielkiej, bogatej, dumnej ze swej historii — głosi apel „Sokoła" do młodych białostoczan. Do organizacji może przystępować każdy, kto czuje się Polakiem. W Białymstoku nadbudowę polityczną stanowi około stu osób. Wśród nich jest Krzysztof Jurgiel, prezydent miasta, Jan Chojnowski, przewodniczący Rady Miejskiej, zarazem prezes „Sokoła".*

*Gazeta w Białymstoku, nr 89*

Усё гэта дзееццa быццам у нейкім скансэне трыццатых гадоў.

* * *

*W demokratycznym pluraliźmie kołtun ma różne barwy. Jest kołtun czarny, kołtun biało-czerwony, kołtun salonowy i kołtun czerwony. Jest kołtun z wykształceniem wyższym i kołtun bez dyplomu. Ten kołtun wnioskuje o zastosowanie ustawy antyalkoholowej do ofiary z chleba i wina sprawowanej przez kapłana w miejscu publicznym — świątyni. Ten kołtun nie jest sam, ma bliźniaka w innych barwach, który przy pierwszej okazji — na kazaniu mówi coś o europejskich spiskowcach, światowym żydostwie, liberałach. Każdy kołtun ma swoją rację, jest głuchy i ślepy na cudze racje i cudze przeżycia.*

*Wprost, nr 16*

# З мінулага тыдня

**Старшыня БНФ Зянон Пазьняк** сустрэўся ў Гданьску з былым прэзідэнтам **Лехам Валэнсам**. Падчас гутаркі лідэр беларускай апазіцыі прадставіў актуальную палітычную сітуацыю ў сваёй краіне (адсутнасць прафсаюзаў, манапалізацыя сродкаў масавай інфармацыі, праследаванне апазіцыі) і папрасіў Валэнсу, каб той пераканаў „Салідарнасць" у справе выслання пратэсту прэзідэнту Лукашэнку наконт абмежавання дэмакратычных свабодаў.

**У Быдгашчы** на ўрачыстасці ўручэння сцяга Ваяводскай камендатуры паліцыі, на якой прамаўляў прэзідэнт **Аляксандр Квасьнеўскі**, перад трыбуну выйшла група маладых людзей з транспарантамі „Łukaszenko Aleksander Kwaśniewski" і „Takich magistrów w Bydgoszczy nie chcemy". Паліцыя транспаранты рэквізавала, а дэманстранты будуць прыцягнены да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне парадку ўрачыстасці.

**Гэта шакіруючае сцвярджэнне**, — сказаў беластоцкаму дадатку „Gazety Wyborczej" **біскуп Тадэвуш Перонэк**, сакратар Епіскапату Польшчы, у адказ на пытанне, ці атаясамліваецца ён са сцвярджэннямі ў камюніке Беластоцкай метрапалітальнай курыі ў справе перадачы Супрасльскага манастыра Праваслаўнай царкве. Нагадаем, што ў заяве беластоцкіх каталіцкіх іерархаў з'явіліся словы аб „праваслаўных шавіністах" і „рускіх нацыяналістах". — Я не хацеў бы падліваць масла ў агонь. Думаю, што ў гэтым выпадку голас узялі лакальныя эмоцыі. Здалёк глядзім на гэта трохі спакайней, — заявіў біскуп.

**Беластоцкі віцэ-ваявода Гжэгаж Рыкоўскі** на першым пасяджэнні польска-беларускай міжурадавай каардынацыйнай камісіі па справах трансгранічнага супрацоўніцтва, якое надаўна адбылося ў Гродне, быў выбраны старшынёю падкамісіі. Займацца яна будзе наладжваннем гаспадарчага супрацоўніцтва паміж рэгіёнамі Польшчы і Беларусі, якія не мяжуюць з сабою. Супрацоўніцтва будзе таксама датычыць абмену вопытам у галіне культуры і асветы.

**У 10 гадавіну аварыі на Чарнобыльскай АЭС** экалагічныя арганізацыі правялі ў Беластоку акцыю пад лозунгам „Дзесяць гадоў Чарнобыля". Пасля кароткага мітынгу маладыя экологі наладзілі шэсце з транспарантамі і плакатамі дзеля напаміну таго факта, што паўночна-ўсходнія раёны Польшчы былі падвергнуты большай небяспецы ў выніку аварыі на АЭС, чым рэшта краіны.

**Школа пагранічча**, якая ствараецца ў Сейнах, будзе рыхтаваць спецыялістаў па арганізацыі працы ва ўмовах шматкультурнага грамадства. Выпускнікі аднагадовых курсаў будуць падрыхтаваны на наладжванне міжнародных кантактаў і атрымаюць веды аб рэгіёне пагранічча, яго патэнцыяле, крыніцах канфліктаў, а таксама аб формах працы ў шматнацыянальнай грамадскасці. Арганізатарам школы выступае мясцовы Цэнтр „Пагранічча".

**Армяне** ўстанавілі ў Беластоку на могільніку прыхода Усіх Святых помнік у гонар 1,5 мільёна сваіх суграмадзян, замардаваных туркамі ў 1915 годзе за тое, што не хацелі згадзіцца на прымусовы пераход з праваслаўя ў мусульманства. Урачыстасць адкрыцця і высвячэння помніка ўзначалілі архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі **Сава**. Зараз у Беластоку прабывае каля 300 армян, для якіх гэты помнік стане месцам жалобнага культу.

**Рабочыя фірмы „Унібуд" з Бельска-Падляшскага**, па заказу Рады аховы помнікаў змагання і пакутніцтва польскага народа, правялі будаўнічыя працы на могільніку ў Старабельску (Расея), дзе пакоіцца астанкі польскіх афіцэраў, якія загінулі ў гады II сусветнай вайны ў тамашнім лагеры НКУС.

# Весткі з Беларусі

**Крывавы шлях**

Дзесяткі ўдзельнікаў арганізаванага 26 красавіка ў Менску Беларускім народным фронтам маршу „Чарнобыльскі шлях-96", прымеркаванага да 10 гадавіны чарнобыльскай катасрофы, атрымалі раненні і траўмы ў выніку яго разгону атрадамі міліцыі. У забароненым уладамі шэсці, якое ўзначальвалі былы старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч і лідэр БНФ Зянон Пазьняк, удзельнічала каля 50 тысяч дэманстрантаў (калі ў афіцыйных чарнобыльскіх святкаваннях у парку Дружбы народаў прымала ўдзел толькі 10 тысяч чалавек). Марш праходзіў пад лозунгамі пратэсту супраць палітыкі прэзідэнта Лукашэнкі. Пасля самай вялікай ад 1991 года дэманстрацыі міліцыя затрымала больш за дзвесце беларускіх апазіцыянераў, у тым ліку каля дваццаці кіраўнікоў і актывістаў БНФ. Сярод арыштаваных апынуліся Лявон Баршчэўскі, Юры Хадыка, Мікола Анцыповіч, Павел Знавец, Станіслаў Гусак, Вінцук Вячорка, а таксама дэпутат украінскага парламента Юры Тыма са сваімі супрацоўнікамі і спадарожнікамі. Арышты праводзілі ўзброеныя людзі ў камуфляжнай форме. Дзеячы БНФ сцвярджаюць, што ў разгоне дэманстрацыі прымалі ўдзел расейскія часці спецыяльнага назначэння. Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка забараніў арганізаваць дэманстрацыі ў сталіцы Беларусі да 1 мая ўключна, паколькі апазіцыя на гэты дзень назначыла новую маніфестацыю. Лукашэнка абвінавціў актывістаў апазіцыі ў тым, што яны прыйшлі на мітынг узброеныя.

**Пазьняк зноў у Менску**

Пасля двух тыдняў знаходжання за мяжой лідэр БНФ Зянон Пазьняк вярнуўся ў Менск. Паводле яго, асабліва каштоўнай была сустрэча з Лехам Валэнсам — чалавекам, які даказаў, што настойлівым змаганнем можна дабіцца незалежнасці. Раней Беларускі патрыятычны рух звярнуўся да прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі з просьбай вярнуць на радзіму Пазьняка і Навумчыка. Савет арганізацыі лічыць неабходным прыцягнуць іх да строгай адказнасці за несумяшчальныя з законам дзеянні.

**Аўтарская сустрэча прэзідэнта**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка нанёс трохдзённы візіт у ФРГ. У першы дзень яго знаходжання ў Дзюсельдорфе адбылася прэзентацыя выдадзенага ў ФРГ на нямецкай мове, зборніка прамоў і выступленняў кіраўніка беларускай дзяржавы „Беларусь — шлях у будучыню". У цырымоніі прэзентацыі прынялі ўдзел намеснік міністра замежных спраў Беларусі Антановіч, выдавец кнігі, фундатар і генеральны дырэктар выдавецкай кампаніі IGT GmbH Пташлык, прадстаўнікі дзелавых колаў ФРГ. Затым Аляксандр Лукашэнка наведаў размешчаныя ў Кёльне заводы аўтамабільнага канцэрна „Форд" і хімічнага канцэрна „Байер", пабываў у Ніжній Саксоніі і Берліне, а таксама сустрэўся з федэральным прэзідэнтам Герцагам.

**Уцечка мазгоў**

У Акадэміі навук Беларусі паведамілі, што за апошнія пяць гадоў колькасць вучоных скарацілася ўдвая — са ста тысяч да пяцідзесяці тысяч чалавек. Нізкая заработная плата, сацыяльная неабароненасць прымушаюць працаздольную моладзь ісці зарабляць грошы ў камерцыйныя структуры або ехаць за мяжу да прыватных прадпрымальнікаў. Калі ў 1990 г. фундаментальнай навуковай дзейнасцю пажадалі заняцца 250 чалавек, то ў 1995 г. толькі 10. А з 1991 па 1995 гады выехалі за мяжу 234 прадстаўнікі беларускай навукі; 190 з іх у Ізраіль і ЗША.

**Юбілей Веры Рыч**

Вечар беларускай культуры, прысвечаны 60-годдзю з дня нараджэння і 40-годдзю з пачатку творчай дзейнасці вядомай англійскай перакладчыцы і паэтэсы Веры Рыч адбыўся ў пасольстве Рэспублікі Беларусь у Лондане. Як прызналі госці сустрэчы ў пасольстве, паэтычная лірыка Максіма Багдановіча і Янкі Купалы ў перакладзе юбіляркі гучыць на англійскай мове гэтак жа чароўна і тонка, як у арыгінале. Паводле выказванняў як беларускіх дыпламатаў, так і іх гасцей, такія сустрэчы садзейнічаюць паглыбленню беларуска-брытанскага супрацоўніцтва і пашыраюць перспектывы культурных сувязей двух дзяржаў.

**Рэканструкцыя штыка**

Адзін з галоўных помнікаў мемарыяльнага комплексу Брэсцкая крэпасць-герой „Высокі штык" знаходзіцца на рэканструкцыі. Такія прафілактычныя работы праводзяцца рэгулярна — раз у некалькі гадоў. Зараз стан помніка вывучаюць вопытныя вучоныя рэстаўратары. Потым прыйдуць будаўнікі і мантажнікі-вышыннікі. Яны выканаюць неабходныя работы.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Зямля дрыжыць у Баброўніках** — рэпартаж Аляксандра Вярбіцкага.
- **За свабоду Беларусі** — пікет у Беластоку.
- **Што пачулі і пабачылі журналісты з Беларусі ў Беластоку.**

# Вам добра на Гайнаўшчыне...

**— Вам то добра на гэтай Гайнаўшчыне, — паўтарае некалькі разоў жанчына. Бачачы маё здзіўленне, паясняе: — У вас усе свае, усе праваслаўныя.**

На Дуброўшчыне сустрэнеце як нідзе „закаранелых" беларусаў. Самі сябе так называюць.

— Самае важнае, — адзначаюць, — захаваць праваслаўе.

На аўтобусным вакзале ў Саколцы так і не давялося мне пачуць польскую мову. Адна касірша з моцным усходнім акцэнтам абслужыла мяне на дзяржаўнай мове. Пасажыры — жыхары навакольных вёсак — гаманілі пра хваробы і дакучлівую зіму. Сюды прысылаць бы студэнтаў беларусістыкі на моўную практыку, — падумалася мне, чуючы чыстую беларушчыну. Кантэкст таксама паказаўся асаблівы — бляшаны прымітыўны будынак вакзала, кіслае паветра, сціплыя бабулькі ў хустках, чырвонашчокія мужыкі, размаляваныя маладзіцы.

Далей з Саколкі праз Рэшкаўцы, Маева, аж па Дуброву таксама давялося слухаць адно беларускую мову.

— На якой мове вы так прыгожа размаўляеце? — прыдаюся турысткай з Польшчы.

— To, pani, taka prosta mowa, nasza, tutejsza.

Ніхто з маіх спадарожнікаў не пачуваўся беларусам.

— My polskie, bo polskiej wiary, — паяснялі мне мае суразмоўцы. Усе яны хрысціліся каля прыдарожных касцёлаў.

У Дуброве-Беластоцкай пахла ўжо вёскай. Многія вучні, відаць, адраблялі першы дзень вясны, бо гарадскі парк напаўнялі іх смех і лаянка. Тут бадзяліся сіняносыя выпівохі, жанчыны з дзіцячымі калясками ды прыезджыя вяскоўцы з клункамі.

Каб знайсці мясцовых беларусаў, думаю наведаць дом культуры. У будынку якраз выстаўка, прысвечаная герою Дуброўшчыны камандзіру 5 Крэсовай дывізіі пяхоты з-пад Монтэ-Касіна ген. Нікадэму Суліку. Цікаўлюся і іншымі культурнымі мерапрыемствамі. У плане сустрэча з ветэранамі АК, фестываль дашкольнай песні, „Дні ліцэя", шахматныя і брыджавыя турніры, свята незалежнасці Польшчы. У жніўні — беларускі фэстын.

За шклянкай кавы працаўнікі „ад культуры" распытваюць мяне пра працу ў „Ніве". Беларускія тэмы ў некаторых выклікаюць павышэнне крывянога ціску.

— Bo lepiej by było wam trzymać z Polakami, niż z Ruskimi, — каментуе апошнія падзеі ў Беларусі малады мужчына. Не задавальняе яго сімпатыя БНФу да польскай дэмакратыі.

— Oni nie uznają Polaków na Białorusi, — у гэтым мой суразмоўца ўпэўнены. Не прыстае да яго інфармацыя, што многія дзеячы БНФу — католікі.

— Katolików to możecie sobie darować, — хвалюецца ён. Жанчыны лагодзяць атмасферу. За кавай і піражным размаўляем пра мясцовыя беларускія калектывы. Спявачкі з Хільмонаў ужо не выступаюць. Адзін гурт „Гранд" з Грабянёў тут асацыюецца як беларускі акцэнт. Пазней доўгае маўчанне... і прыгадваюць яшчэ Аркадзя Суліму, дзеяча БГКТ. Шукаем яго па ўсім горадзе, безвынікова. Жонка спадара Сулімы, цётка Фаіна, таксама дапамагае як можа. Вядзе мяне да „сваіх" людзей. Балазе, сустракаем Аляксандра Гапуніка, былога актывіста БГКТ, родам з-пад гарадоцкіх Зуброў.

— Цяпер мы ўжо нідзе не сустракаемся, — чую нараканні на польскай мове. — Адно што яшчэ пры царкве людзі не баяцца гаварыць па-свойму. А ў хаце — калі разам збярэмся.

Мае суразмоўцы гавораць усё гэта па-польску, сціпшаным, стрыманым голасам. Прашу іх, каб перайшлі на беларускую, і яны пачынаюць размаўляць на роднай мове.

— Я то баюся гаварыць, — адзначае цётка Фаіна, — бо і сама не ведаю, як правільна гаворыцца. У нас гавораць інакш, у беластоцкіх беларускіх праграмах інакш, у гродзенскім тэлебачанні інакш, а пад Гайнаўкай — яшчэ інакш.

Пасля гэтай недарэчнай беларускай блытаніны рашаю пашукаць яшчэ іншых беларусаў. І хаця трэба ехаць на аўтобусе ў адлеглыя вёскі, не адракаюся. Так хочацца мне сустрэць там беларуса! Рашаю наведаць Янку Петушынскага, пра якога ў Дуброве гавораць: „закаранелы беларус" (дарэчы, на Гайнаўшчыне функцыянуе антанім: „закалёны паляк").

Шчасце мне спрыяе. Якраз і аўтобус едзе ў Грабяні пасля зімовага перапынку. Разам з беларускамоўнымі пасажырамі цягнемся раскіслай гравійкай, папрарыванай ручаямі. На палях шмат яшчэ снегу. Аўтобус тармазіць перад вёскай, за якой шырокая рака. Канец дарогі. Гэта маленькая Сідра так разлілася, што і найстарэйшыя грабянёўцы такога не памятаюць. Тут таксама мне пашанцавала. Аказваецца, разам са мною ў тым жа аўтобусе ехала цётка Янкі Петушынскага.

— Вам то добра на гэтай Гайнаўшчыне, — паўтарае некалькі разоў жанчына. Бачачы маё здзіўленне, паясняе: — У вас усе свае, усе праваслаўныя.

Далей чую пра складаныя адносіны паміж католікамі і праваслаўнымі. У кожным няшчасці, якое здарыцца ў вёсцы, людзі абвінавачваюць іншаверцаў.

— Усё свята не было ў нас электрычнасці і ўсё ў халадзільніках папсавалася, — чую нараканні (на Гайнаўшчыне таксама балюча ўспрымаюць аварыі электрычнасці).

У вёсцы здарылася трагедыя, загінулі дзве дзяўчыны і хлопец. Вярталіся з музыкаў. Быў якраз каталіцкі Вялікдзень.

— Хлопец быў праваслаўны, — жыхары перакананыя ў Гасподняй кары, — а ў нас жа пост быў, Вербніца святая і Благавешчанне!

Грабяні былі людная вёскай. У мясціне 120 сядзіб. Сёння можна налічыць тут толькі восем перспектыўных гаспадароў. У пачатковую школу (у Бутрымаўцы) ходзяць толькі сямёра дзетак. У Грабянях жывуць католікі і праваслаўныя, па палове.

Сям'я Петушынскіх пражывае ў паэтычным наваколлі. За стадолай лясістыя ўзгоркі, перад хатай сад і рэчка. У іх двары загасцілі нават буслы. Не дзіва, што Янка, лідар „Гранду", прыродны паэт.

— Калі выйду перад хату, усюды так прыгожа, што і вершы самыя складаюцца, — гаворыць ён пра свае песні, большасць якіх сам стварае.

— Можа падкажаце, як нам сына ажаніць, — раяцца гасцінныя бацькі Янкі, а на стале тым часам з'яўляюцца велікодныя пірагі, араматны мёд.

— Дзякуючы гэтаму мёду ды музыкам на вёсцы жывецца не горш, як у горадзе, — усміхаецца Янка.

Сям'я Петушынскіх ад пакаленняў займаецца пчалярствам. Бацька Янкі, Лявон, сам родам з Бітага Каменя, адзначае, што ўсе яго продкі былі пчалярамі. Ну і зразумела, яшчэ і гаспадарка, даваццаціректарная, дзе большая частка — лес.

— А песні, — гаворыць цётка Галя, Янкава маці, энергічная пенсіянерка, — сын па мне ўзяў. Бывала, у мае маладыя гады як пачнем спяваць з братам на вяселлі, то ўсю ноч праспяваем.

Ды і цяпер у яе душы музыка іграе. Янка бярэ гармонік, а яна чыста, высока зацягвае „Цячэ вада ў ярок". Шкада ёй тых песень, якія калісьці ведалі вяскоўцы.

— Бывала, як у Сідарцы заспяваюць, то ў нас без ніякіх мікрафонаў усё было чутна, — уздыхае Галіна Петушынская.

Усе Петушынскія штодзённа слухаюць беларускія перадачы з Беластока.

— Шкада, што спяваюць толькі ўсё тыя „Ас" ды „Рэаль", — адчуваю тон пратэсту. — І мы б не горш заспявалі, — дадае Янка.

Ён і яшчэ Пятро Кучынскі так расславілі свой гурт „Гранд", што аж пад Сямятычамі на вяселлі іграць іх запрашаюць. А на Дуброўшчыне ці Сакольшчыне ўсе іх заказваюць, калі праваслаўныя жэняцца. Запрашаюць і мясцовыя католікі, ды часта забараняюць спяваць па-беларуску, а яны і так спяваюць!

— Чаму вы якраз беларускія песні хочаце спяваць? — пытаюся прэтэнцыёзна Янку, хаця ведаю ўжо адказ.

— Чаму? Гэта ж наша, з нашага кораня, і мы з гэтага кораня, — чую высакародныя, простыя словы.

Янкавы бацькі ўдакладняюць:

— Бо мы такія „закаранелыя беларусы". І дачка наша, па студыях, як едзе аўтобусам, то па-беларуску гаворыць. Людзі на яе аглядаюцца, бо ў нас вучоныя людзі па-беларуску ўжо не размаўляюць.

Пазней чую словы, якія гаварыла ў дарозе Янкава цётка:

— Вам то добра на гэтай Гайнаўшчыне: усе свае, усе праваслаўныя.

А я якраз успамінаю падарожжа з Бельшчыны і думаю пра беларуска-ўкраінскі падзел. Але пра беларускія блытаніны не маю тут адвагі гаварыць. Усю зваротную дарогу даганяюць мяне словы Віктара Шалкевіча: „Навошта Ты, Божа, так нас падзяліў..."

**Ганна КАНДРАЦЮК**

## Небяспечна на кузаўскай вуліцы

Ужо другі год як на кузаўскай вуліцы паклалі асфальтавае палатно. І хоць гмінная інвестыцыя не завершана (не хапіла грошай) жыхары Кузавы з палёгкай уздыхнулі. Даўнейшая забалочаная вуліца з калдобінамі пайшла ў забыццё. Зараз прыемна праехаць па асфальце.

Аднак з'явілася іншая праблема. На новай вуліцы падлеткі часта праводзяць „гонкі" на матацыклах і мапедах. У мінулым, напрыклад, асабліва ў час канікул, у нядзелю ці свята страшна было на вуліцы паказацца старэйшаму чалавеку. Аб дзецях і не гавары! Аж вушы пухнуць ад бурчання матацыклаў. Ніхто ў час такіх „гонак" не звяртае ўвагі на правілы дарожнага руху. Неаднойчы па трох падлеткаў, з маланкавай хуткасцю, ганялася туды і назад. Без прычыны! Каб паказаць людзям сваю бравурнасць! Адна маленькая няўвага, і выпадак гатовы!

Страшна падумаць, што чакае кузаўцаў праз два-тры месяцы, а мо нават тыдні.

Нядаўна, ехаўшы ў вёску, бачыў я паламаныя платы. І гэта якраз каля сядзібы солтыса. Нехта праехаўся на „двух газах". Дзякуй Богу, не пацярпелі людзі. Плот можна адрамантаваць. Аднак няхай гэты прыклад падкажа гмінным уладам, што на кузаўскай вуліцы пагражае людзям небяспека.

Варта аб гэтым памятаць! **(ус)**

## Ці гэта ў Беластоку?

Апошнім часам мне часценька прыходзіцца заглядаць у Беласток. Наведваю дачку, якая жыве ў Дайлідах.

Ціхае, прытульнае месца. Здалёк ад паталагічных з'яў, хуліганаў і п'яніц, ад шуму горада, смуроду дымячых комінаў і аўтамабіляў.

У гэтым куточку перыферыйнага Беластока, быццам у звярынцы, змяшчаюцца названыя ад звяроў і птушак вуліцы. Аднак стан тых вуліц зусім не падыходзіць да іх прыгожых назваў.

Ад канчатковага прыпынку аўтобуса н-р 4 першая вуліца ў левы бок гэта вуліца „Яскулча". Ужо амаль ад самога яе пачатку на адрэзку 200-250 метраў у час вясення разводдзя столькі тут балота, што не праехаць, не прайсці. Адзіны выхад, гэта гумовыя боты. Велізарныя калюжыны і калдобіны немагчыма абмінуць, хоць ты на крылах пралятай!

Аж верыць не хочацца, што гэта ўсё ў Беластоку, сталіцы нашага ваяводства!

Няўжо гарадскія службы не ведаюць, што жывуць тут людзі? Плацяць яны дарожныя налогі і патрабуюць таксама кавалачак сухой сцяжынкі, каб прайсці дахаты! А мо гарадскія чыноўнікі вырашылі, што тут жывуць адны звяры ды птушкі, і могуць яны лётаць і любяць плюхацца ў балоце?

**Уладзімір СІДАРУК**

**12 мая ў Нарве**

## Агляд абрадавых калектываў

У нядзелю, 12 мая гэтага года ў Асяродку культуры ў Нарве адбудзецца — традыцыйна ўжо — агляд беларускіх абрадавых калектываў.

Пачатак мерапрыемства а гадзіне $13^{00}$. **(яц)**

# Менск — 26 красавіка

(працяг са стар. 1)
нізатары ледзь-ледзь устрымліваюць моладзь. Хтосьці не вытрываў, перакуліў міліцэйскую машыну, затым другую, міліцыя пачынае лупцаваць, першыя шэрагі дэманстрантаў кідаюцца наўцёкі. Ззаду напіраюць іншыя. Хтосьці кідае: „у двор!" Я памятаю, як у Варшаве міліцыя спіхала ў двор, каб аддубасіць здалёк ад вачэй замежных журналістаў і назіральнікаў, таму стараюся прапхнуцца назад па праспекце. Гублю на момант Лену, якая, на шчасце, аказалася зараз за мною.

На дахах тралейбусаў, у якіх ззаду драбінкі, поўна народу — журналісты і ўцекачы ад дубінак. Міліцыя, аднак, не гоніць. Кардон быў парваны, міліцыянты расступаюцца пад сцены, паход рушае дапераду. Аддыхаемся і ўваходзім між міліцэйскія шчыты і дубінкі. Дэманстранты крычаць „фашысты!", але міліцыі не чапаюць, хаця такі парушаны строй, калі б захацелі, разнеслі б у пыл.



Увагу фотарэпарцёраў прыцягваў плакат „Духоўны мутант".

Паход без перашкод рухаецца праз плошчу Перамогі. Арганізатары пільнуюць, каб не нішчылі кустоў каля абеліска, каб ніхто не чапіў вечнага агню. За плошчай Незалежнасці праспект Скарыны зыходзіць уніз, да Свіслачы, а затым падымаецца ўверх да цырка і далей — да Кастрычніцкай плошчы, каля якой, між іншым, прэзідэнцкі палац. Добра відаць магутнасць дэманстрацыі, як і наступную загароду. На праспекце стаяць упоперак аўтобусы і міліцэйскія грузавыя машыны. Спераду жывы кардон, схаваны за шчытамі. Тут ахоўнікаў парадку куды больш, чымсьці на плошчы Коласа.

**Другая спроба сіл**

Маніфестацыя са свістам і пагрозлівымі воклічамі ў адрас міліцыі павярнула направа, на вуліцу Янкі Купалы, дайшла да вуліцы Багдановіча і там звярнула ўлева. Праз натоўп пайшла вестка, што з'явіўся Зянон Пазьняк. Людзі пачынаюць скандаваць: „Пазьняк! Пазьняк!" З вуснаў у вусны перадаецца, каго пабілі. Сярод пацярпеўшых аказаліся, між іншым, **Станіслаў Шушкевіч**, дэпутат **Аляксандр Дабравольскі**, мастак **Аляксей Марачкін**, дырэктар Музея Багдановіча **Алесь Бяляцкі**, журналіст **Эдуард Тарлецкі**.

Каля нас прайшоў закрываўлены чалавек, у садранай кашулі. Паказаў Лене беларускі пашпарт, у якім напісана было, што ён па нацыянальнасці паляк. А на дадатак ён яшчэ і былы афіцэр савецкай арміі.

Галава шэсця перайшла Свіслач ля Траецкага прадмесця. Ад пляца Волі і менскага сабора зноўку сустрэла нас міліцыя. Тут ужо моладзі не ўдалося стрымаць. Месца было дастаткова і ў бок міліцыі палялелі камяні. Дапераду, трымаючыся за рукі і з ускрыкамі „гого-го!" прабеглі ўкраінцы. За міліцыяй, на ўзгорку пачалі збірацца цікаўныя. Відаць, міліцыянты адчулі сябе ў пастцы, бо пачалі біць выпадковых прахожых і ўсіх, хто апынуўся пад рукою. Так атрымаў па галаве карэспандэнт „Gazety Wyborczej" Цэзары Галінскі, які падымаў кінутую на зямлю сяброўку. Пазней у хаце ўбачыў ён яшчэ сінія паласы на спіне. Відаць зарабіў іх, калі страціў прытомнасць.

**Як доўга ўдасца пацыфікаваць настроі**

Арганізатары, аднак, любой цаной стараліся захаваць спакой і павялі шматтысячнае шэсце ў другі бок, да Палаца спорту.

Вялікай бітвы не атрымалася.

Пад палацам пачаўся мітынг, але слабая тэхніка не дазваляла чуць прамовы. Моладзь адыходзіла расчараваная. Калі вялікія групы пачалі разыходзіцца ад месца мітынгу і вяртацца ў бок пляца Волі, міліцыя зноў перажыла пагрозлівыя моманты, лічачы, што гэта свядомая тактыка на прарыў на плошчу Незалежнасці, пад Вярхоўны Савет.

Нічога такога не адбылося. Маніфестанты, выслухаўшы — хто чуў — прамоўцаў пра Лукашэнку, як сімвал духоўнага Чарнобыля, які вядзе да знішчэння краіны і нацыі ды ўшанаваўшы знічамі і хвілінай маўчання памяць ахвяр сапраўднага Чарнобыля, мірна разышліся.


Ахвяра міліцыйных дубінак — паляк па нацыянальнасці, былы афіцэр савецкай арміі.

Сярод натоўпу на месцы мітынгу па трох, з рацыямі, хадзілі міліцыянты ў мундзірах. Ніхто іх не чапаў, хаця моладзь была яўна незадаволеная заканчэннем дэманстрацыі.

Беларускі народны фронт, які ўвесь час заклікае весці палітычную барацьбу толькі законнымі сродкамі і, нягледзячы на гэта, лукашэнкаўскай прапагандай прадстаўляецца як група шалёных экстрэмістаў, для моладзі перастае быць аўтарытэтам. Як надта мяккі. За некалькі гадоў незалежнасці — якою б яна не была — вырасла маладое пакаленне і яно яшчэ сваё слова скажа. Сённяшнюю антыбеларускую ўладу яно ненавідзіць.

Прысутныя на маніфестацыі журналісты ацанілі колькасць дэманстрантаў на 30—50 тысяч. Прэсавае агенцтва „Рэйтэр" паведаміла пра 40 тысяч.

Увечары ў афіцыйным беларускім тэлебачанні сказалі, што ў антыўрадавай інтрызе ўдзельнічалі каля васьмі тысяч, у большасці п'яных студэнтаў і іншага неадказнага элементу.

Уначы прайшоў вобыск у сядзібе БНФ. Арышты пачаліся зараз пасля мітынгу і працягваліся ўвесь наступны дзень. **Мікола ВАЎРАНЮК**

*Фота аўтара і Лены ГЛАГОЎСКАЙ*


Каля Акадэміі навук — мора народу, мора сцягоў.

# Я адчуваю падтрымку

**Інтэрв'ю лідэра БНФ Зянона ПАЗЬНЯКА, дадзенае 26 красавіка радыёстанцыі „Свабода".**

— Нашу паездку за мяжу — на Украіну, ў Чэхію і Польшчу — я ацэньваю станоўча. Асноўныя задачы выкананыя. Гэта інфармаванне грамадстваў гэтых краін, сустрэчы з вядучымі палітыкамі і шуканне ў іх палітычнай падтрымкі (а яна ёсць), гэта таксама сустрэчы з дзяржаўнымі дзеячамі. У тых гарадах, дзе я быў, сустрэчы былі зроблены на вышэйшым узроўні. Паказчыкам выканання задачы з'яўляецца тое, што пераязджаючы з горада ў горад у Польшчы, ідучы па вуліцах, на вакзалах, ля газетных кіёскаў людзі пазнавалі, ціснулі руку і выказвалі падтрымку беларускаму народу, беларускай дэмакратыі. Гэта сведчыць аб тым, што грамадства Польшчы занепакоена тым, што адбываецца на Беларусі, і безумоўна настроена ў падтрымку дэмакратыі. Што датычыць таго, што я зараз прыехаў сюды, то па-першае, знойдзена міжнародная падтрымка і аб гэтым трэба данесці нашым людзям з першых вуснаў. Па-другое, гэта 10-я гадавіна нашай трагедыі — гэтага страшнага дня, калі няшчасці пасыпаліся на нашы галовы; мне вельмі хацелася быць разам з нашымі людзьмі.

Я адчуваю за спіной падтрымку еўрапейскай грамадскасці, праваабарончых арганізацый і таму з лёгкім сумленнем сюды еду. Але я катэгарычна настаяў на тым, каб Сяргей Навумчык застаўся ў Варшаве і прадаўжаў праваабарончую работу як член Хельсінскага камітэта Беларусі. Ён таксама даваў бы інфармацыю аб сітуацыі, якая складаецца на Беларусі. Шмат яшчэ чаго недароблена да канца і нам не трэба марнаваць час, а рабіць. Таму я пакуль што вярнуўся адзін і думаю, што потым гэта праца будзе прадоўжана. Ёсць запрашэнні ў Канаду, Злучаныя Штаты Амерыкі, рыхтуюцца ў Нямеччыну, Францыю, Вялікабрытанію і практычна я вымушаны быў перапыніць гэту паездку і прыехаць сюды, каб быць разам і падтрымаць сваіх сяброў, сваіх аднадумцаў, а таксама атрымаць зарад духоўнай сілы на дарагой Бацькаўшчыне.

# Białoruskie Zeszyty Historyczne

Спазніўшыся на некалькі месяцаў, паказаўся ў продажы чацвёрты нумар „Беларускага гістарычнага сшытка". Выдавецтва — Беларускае гістарычнае таварыства — рыхтуе ўжо чарговы том і дзве кніжкі: Алега Латышонка пра беларускія вайсковыя фарміраванні ў гадах 1917 — 1923 і Лены Глагоўскай пра культуру Беларусі ў міжваенны перыяд.

Пакуль што аматары і даследчыкі гісторыі Беларусі ў чацвёртым нумары „Сшытка" могуць прачытаць артыкулы: Аляксея Шаланды пра гербы роду Сапегаў, Мажэны Лідкэ пра прычыны змены моўнай і культурнай арыентацыі рускай шляхты Вялікага княства Літоўскага ў XVI стагоддзі, Антона Міpановіча пра Берасцейскую унію, Васіля Белаказовіча пра фарміраванне сучаснай беларускай нацыянальнай свядомасці, Мірaславы Каліны пра метады паланізацыі Праваслаўнай царквы на Беласточчыне ў міжваенны перыяд, Крыстыны Гамулкі пра палітыку польскіх улад у адносінах да беларусаў у 1918—1939 гадах і Яўгена Міpановіча пра палітычную актыўнасць беларусаў у 1989—1994 гадах.

Апрача артыкулаў у „Сшытку" змяшчаецца шмат рэцэнзій, камунікатаў і біяграфіі пасла Сяргея Баранава і генерала Станіслава Булак-Балаховіча.

**рэд.**

Białoruskie Zeszyty Historyczne, z. 4, Białystok 1995, s. 217, wyd. Białoruskie Towarzystwo Historyczne. *(Выданне прадаецца ў рэдакцыі „Нівы" і „Часопіса", некаторых кнігарнях Беласточчыны, Варшавы, Кракава і Гданьска)*

**19 – 20.07.1996**

# Басовішча

Беларускае аб'яднанне студэнтаў, як арганізатар фестывалю, запрашае рок-гурты да ўдзелу ў сёлетнім конкурсе „Басовішча'96".

Да паловы чэрвеня на адрас: Białoruskie Zrzeszenie Studentów, Białystok, ul. Suraska 1, трэба даслаць касету з трыццацімінутным запісам музыкі гурту (запіс можа быць непрафесіянальны). У прапанаваным матэрыяле **абавязкова мусіць быць беларускамоўны рэпертуар**. Да касеты трэба прылажыць інфармацыю пра гурт і яго членаў, а таксама адрас для перапіскі (эвентуальна нумар тэлефона). Інфармацыя аб выніках адбору будзе перададзена да канца чэрвеня.

# З вершам бывае як з дзяўчынай

**Гутарка з Міхасём Андрасюком**

**„Ніва"**: — *Родам вы з Войнаўкі. І назва вёскі прывабная, і пушчанскі кут, дзе яна ляжыць, мае своеасаблівую, паэтычную атмасферу.*

**Міхась Андрасюк**: — Наваколле беднае, але літаратура не нараджаецца там, дзе багацце. Гэтую незвычайнасць я адчуваю, але не ўмею яе апісаць. У вёсцы Выган жыла, напрыклад, жанчына, якой на імя было Лёня. Жыла адна ў зямлянцы і нікога не пускала на парог. Не выходзіла да людзей гадоў сорак. Кажуць, ад нешчаслівага кахання.

— *Усё ж такі апісваць прабуеце. Калі гэта пачалося?*

— Цяжка сказаць, але яшчэ ў пачатковай школе. Спярша па-польску. Пабеларуску недзе ў VII—VIII класе. Трэба было напісаць сачыненне і я вырашыў зрабіць гэта вершам. Настаўніца вельмі цікавілася, як гэта ў мяне атрымаецца. Паставіла пяцёрку.

У ліцэі я пісаў у насценгазетку папольску, а ў „Ніву" — па-беларуску. Друкаваўся ў „Парнасіку". Цяпер смешна тое чытаць.

Мой напісаны па-польску верш узяў I месца ў конкурсе часопіса „Пломык". Надрукаваны быў у асобным зборніку. На жаль, гэты зборнік я недзе падзеў.

Васьмідзесятыя гады ў маёй творчасці — белая пляма. Я не пісаў тады нічога. Не адчуваў такой патрэбы.

— *У дзевяностыя вы вярнуліся да пісання.*

— Даволі выпадкова. Мой дзядзька Васіль Петручук спытаў, чаму я не пішу. Дык напісаў я некалькі вершаў, а Петручук перадаў іх у „Ніву".

Першы год пісаў я вельмі многа. Калі чалавек выйдзе з глухога кута, ён крычыць: „Вось я!" Хацеў паказаць, што я недзе жыву.

— *Цяпер пішаце прыкметна менш.*

— Я дайшоў да вываду, што не змагу напісаць таго, што хацеў бы. Мая беларуская мова вельмі слабенькая. Хапае, каб купіць буталь спірту на базары, а не каб напісаць добры верш.

— *Занадта вы ўжо суіплы наконт сваёй мовы.*

— Веданне слоў гэта яшчэ не веданне мовы. Звязаць словы так, каб атрымалася чароўна — цяжка.

— *Вы пішаце не толькі вершы, але і фельетоны.*

— Падбухторыў мяне „Прарок Ілья" Слабадзянка. Не цікавілі мяне літаратурныя каштоўнасці спектакля. Кранула мяне тое, што ў тэлебачанні быццам трэба абавязваюць хрысціянскія вартасці, а беларуса паказваюць як мужыка, які нясе крыж і брыдка лаецца. Калі б такім чынам прадставіць абарону Чанстахова, гэтага ніколі не пусцілі б у тэлебачанні, хай сабе п'еса заслугоўвае Нобелеўскай прэміі. Фельетоны пішуцца мне вельмі лёгка, хопіць знайсці тэму.

— *Тым не менш апошнім часам іх няшмат.*

— Рэдка піша ў „Ніву" Юрка Трачук, а ён — мой натхняльнік. У нашых украінцаў я не люблю таго, што яны за мяне вырашаюць, хто я. Памятаю, як я сам калісь тлумачыў за вясельным сталом нейкаму госцю з глыбі Польшчы, што мы тут — украінцы. Пачуў гэта мой бацька ды адзін раз у жыцці рыгнуўся на мяне: „Не п..." сказаў, і хапіла.

— *Назіраючы нашу разгубленасць і занапад, інакш пачынаю думаць пра ранейшыя пакаленні.*

— Я памятаю старых людзей у нашай Войнаўцы. Такі дзед Аляксей Дутковіч для ўсіх нас быў аўтарытэтам. Ён ужо памёр, але застаўся ў людской памяці. І так я думаю: у чыёй памяці застанемся мы?



— *А хто з'яўляецца для Вас узорам у літаратуры?*

— Люблю чытаць Тадэвуша Новака. Ён піша пра польскую вёску, але старая польская вёска — такая як і наша. Люблю Галчынскага за дзіві і чары. У маладым горадзе, такім як Гайнаўка, такога чагосьці няма, але ў Кракаве Галчынскі мог іх бачыць. І Ясеніна люблю — славянскую душу.

А пісаць хацеў бы як Гашак, хаця ён не мае нічога супольнага з беларушчынай.

— *Для мяне ягоны Швейк — беларускі персанаж, столькі ў яго мужыцкае хітрасці.*

— І шчырасці, якая характэрна беларускаму мужыку. Хачу прачытаць Гашэка па-беларуску, але пакуль мне не ўдалося дастаць.

— *А што для Вас блізкае ў беларускай літаратуры?*

— Калі я другі раз пачынаў пісаць, у дзевяностыя, у мяне не было ніякіх беларускіх кніжак. Яшчэ нядаўна не ведаў, што беларуская літаратура такая багатая. Думаў, што пасля Савецкага Саюза нічога не засталося. Аказваецца, ёсць, ды багата.

Мой улюбёны паэт — Анатоль Сыс. Люблю таксама Рыгора Барадуліна, Міхася Стральцова. Калі чытаю ў Барадуліна пра хутар, зіму, сані, я гэта бачу, быццам гэта было тут, на Гайнаўшчыне. Або калі чытаю Івана Чыгрынава, успрымаю яго Верамейкі як Войнаўку.

Мне не падабаецца паэзія створаная невядома дзе і для каго, чыста філасофскія роздумы. Самае галоўнае — гэта вобраз. Тое было і ў Ясеніна.

Бывае, закране душу адзін радок, як ва Уладзіміра Гайдука: „Крылы не толькі даны арлу..." Езджу часта на Семяноўку (вельмі люблю рыбалку), мінаю Тарнопаль, усё збіраюся наведаць Гайдука, але нейк не маю смеласці.

— *Вы працуеце каменячосам. Ці такі занятак уплывае на вашу творчасць?*

— Не, а калі ўжо, дык адмоўна. Смерць мне ўжо здаецца чымсьці звычайным. А чалавек — твор Космасу, які бязмежны і несмяротны. І як твор Космасу чалавек таксама бязмежны і несмяротны.

— *Але ж памірае і вы яму робіце помнік. У чым тады гэта бязмежнасць і несмяротнасць?*

— Чалавек не гіне. Чалавек нарадзіўся, каб жыць. Нам хочацца, каб так было, а калі вельмі хочацца, нам здаецца, што так ёсць. Чалавек не дайшоў да таго, каб жыць вечна. Але мне здаецца, што калісь дойдзе.

— *Усё-такі пафіласофствавалі. А чаго нам чакаць ад Вас?*

— Хацеў бы я напісаць паэтычную прозу. Маю нават загаловак: „Адшчапенец" ці „Следам адшчапенца", але не ведаю, ці змагу. Мне часта здараецца не скончыць, часам праз звычайнае гультайства. З вершам бывае як з дзяўчынай. Калі пішаш верш, ён вельмі падабаецца. Праз тыдзень-два — перастае падабацца. Таму і менш друкую.

— *Дзякую за размову.*

Гутарыў **Алег Латышонак**

# Шкодзіць сабе не выпадае

Напісаць гэтыя словы заінспіравалі мяне публікацыі, якія на працягу апошніх гадоў змяшчаліся на старонках рэгіянальнай прэсы, а якія кранаді справу суадносін па лініі ГП БГКТ — другія беларуская арганізацыі. Чытанне большасці з іх выклікала ў мяне вялікае расчараванне і недавер, што людзі, якія ўсё ж такі рабілі і робяць нешта добрае для нашага асяроддзя, якім хтосьці давэрыў і даў права кіраваць, як бы не гаварыць вялікай арганізацыяй, не ўмеюць жыць і дзейнічаць у новых абставінах і, што горшае, не ўмеюць памірыцца з утратай пазіцыі „адзінай і вядучай сілы народа". Гаворачы „людзі БГКТ", маю на ўвазе ў асноўным дзве асобы, якія прысвоілі сабе права выказвацца ад імя ўсіх і ўсё ацэньваць. Што горшае, іх аргументы, як і спосаб барацьбы, даволі моцна ўплываюць на людзей улады, якім ці то з прычыны займанае пасады, ці то з любой іншай, неабыякавы праблемы нацыянальных меншасцей. Апошняе можа не здзіўляць, калі прыпомнім усе захады і намаганні нашай „вядучай сілы" ў напрамку далучэння да цяперашніх улад. Аднак, да гэтае пары левыя дэмакраты адплачвалі сваім памагатым адно спектакулярнымі жэстамі, але цяпер справы пачынаюць выглядаць намнога больш сур'ёзна. Не, справа не ў тым, што БГКТ атрымае чэк *in blanco* і нанава купіць суперкамп'ютэрнае і таму падобнае абсталяванне. Маецца тут на ўвазе, як гэта гаворыць старшыня БГКТ, „не зусім дэмакратычна забраную арганізацыі «Ніву». Вядома — газета, а шырэй гаворачы прэса, радыё і г.д. з'яўляюцца „чацвёртай уладай" і ГП гэтую страту „моцна перажывае" і стараецца, моцна стараецца стаць ізноў уласнікам „тыднёвіка беларусаў у Польшчы". Старацца, а нават змагацца яны маюць поўнае права — дэмакратычныя парадкі дазваляюць на амаль усё, але... Але, як выглядае гэтае змаганне? Я б адказаў: адны паклёпы, хлусня і зман! Бо ці інакш можна назваць словы спадара Я. Сычэўскага на сустрэчы прадстаўнікоў беларускіх і польскіх міністэрстваў з уладамі ГП БГКТ (глядзі „Ніва" ад 14.04.96). Старшыня Таварыства падтрымаў тон выказвання Ежы Бісяка, якое было вельмі падобнае да ранейшых, абсурдных закідаў ГП у бок „Нівы". У кожным інтэрв'ю спадар Сычэўскі стараецца ў вельмі нээлегантны і агрэсіўны спосаб асмяшыць і звесці да нуля дзейнасць рэдакцыі тыднёвіка. Спосаб атакі старшыні і ягоныя аргументы вельмі да сябе падобныя і аж да млоснасці нудныя. Праўдападобна старшыня БГКТ не чытае „Ніву", а калі чытае дык толькі другую і апошнюю яе старонкі. Бо калі б чытаў, то з рукой на сэрцы (як кожны чытач) сказаў бы, што ў газеце ёсць і пра справы школьнікаў, і літаратура, і рэпартажы з вёсак і гарадоў, і многа, многа іншых спраў, а таксама аб'ектыўныя і цікавыя рэпартажы з мерапрыемстваў арганізаваных ГП БГКТ. Вядома, што журналісты не прадстаўляюць іх так, як гэта было калісь — на ўсіх старонках паасобнага нумару, а больш сціпла, бо ёсць і другія не менш важныя тэмы.

Адным з пастаянных закідаў людзей БГКТ, які мае вельмі падмацаваць адмоўны вобраз цяперашняй рэдакцыі „Нівы", ёсць тыраж, яго памяншэнне. На маю думку, гэта не закід для спадара Яўгена Міроновіча і яго супрацоўнікаў і сяброў — гэта праблема намнога глыбейшая і сваімі каранямі сягае часоў, калі „Ніва" была органам БГКТ. Гэта не „Ніва" нецікавая і не яна адвярнулася ад народа — гэта час змяніўся. Людзі ГП гавораць: чытачы адкінулі „Ніву" бо нічога нявартая, бо не мае добрага гаспадара. Найлепшым было б ГП БГКТ. А я Вам скажу: Вы ж былі гаспадарамі і адзінай беларускай газеты, і адзінымі гаспадарамі культурнага і асветніцкага жыцця беларусаў Беласточчыны. І як Вы справіліся з гэтым пытаннем? Як выглядаюць справы нацыянальнае свядомасці насельніцтва Беласточчыны? Чаму асноўная маса беларусаў польскамоўная? Дзе падзеліся тысячы выпускнікоў бельліцэяў і школ **з беларускай мовай, як неабавязковым прадметам?** Вы ж станам нашай асветы ганарыцеся пры кожнай нагодзе. Замест атакаваць усё, што рухаецца ў добрым напрамку, задумайцеся над гэтымі (толькі) запытаннямі і... не мусіце адказваць. А калі свае дасягненні будзеце лічыць у колькасці народных гулянняў (фэстаў) і ў ліку вучняў вывучаючых **беларускую, родную мову, як неабавязковы прадмет,** дык выбачайце, але штосьці гэта хіба не так.

Я абсалютна не аспрэчваю Вашыя заслугі і дасягненні (яны бясспрэчна значныя), а трэба зразумець, што гэта ўжо не 60-тыя гады, што фальклор гэта не ўсё, што ёсць ужо другое і дарастае трэцяе пакаленне ўжо крыху іншых беларусаў. Не аспрэчваю таксама фэстаў (яны патрэбныя), але пры такой аднабаковай трактоўцы беларускасці зараз, заўтра не будзе каму і для каго спяваць і танцаваць (бараш Божа!).

Вы, людзі ГП, пішаце і гаворыце „нас не заўважаюць", але ці Вы штосьці зрабілі для добрага вобразу іншых **нашых** арганізацый. **Нічога не зрабілі** і Вас пэўна нават не цікавяць дасягненні напр. Беларускага гістарычнага таварыства ці Беларускага аб'яднання студэнтаў. Вы іх не толькі замоўчваеце, але яшчэ і прысвойваеце сабе вынікі іхняй дзейнасці (беларускае прадшколле ў Беластолку).

Можна было б працягваць далей і далей, бо, як гэта гавораць, тэма-рака, а на дадатак рака сумная і вада ў ёй мутная. Але я не намерваюся ачарніць БГКТ, ягонага старшыню ці сакратара, а паказаць з пункту гледжання чалавека не звязанага з ніводнай плыню дрэнную дарогу барацьбы, абраную Праўленнем. Барацьбы, якой у нашым беларускім асяроддзі не павінна быць; ужо даўно патрэбны размовы, бо ў іншым выпадку на нашай глебе, пад вашымі крыламі вырастуць не толькі „ўкраінцы-пэрэхрысты", але нават яцвягі ці татары.

А калі хтосьці ігнаруе прапановы сустрэч, не хоча даць інтэрв'ю для журналіста той газеты, ад якой пасля патрабуецца аб'ектыўнасць, то гэта ўжо поўнае недаразуменне і вельмі смешная парадаксальная сітуацыя.

Думаю, што не варта ваяваць за справу, якая знаходзіцца ў добрых і адпаведных руках. Справа не ў тым, каб накідаць пад ногі нашае шаноўнае юбілярцы калодаў, але ў тым, як іх пасля падымаць. А тым больш, што БГКТ таксама святкуе 40-годдзе свайго існавання і, на маю думку, усё дагэтуль пройдзенае абодвума юбілярамі, вельмі блізкае, амаль супольнае. І калі ўжо так далей быць не можа, дык хаця шкодзіць сабе не выпадае.

І таго, а таксама больш разважнай палітыкі, самых поспехаў ва ўсіх дзялянках дзейнасці і жыцця, жадаю і для БГКТ, і для „Нівы".

**Яўген Бялькевіч,**
**Чыжы**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Апошні раз у Пасынках

Спяшалася я наведаць вучняў з Пасынак. З наступнага навучальнага года закрыюць іх школу. Школьны будынак, які дзесяткі гадоў папаўняўся гоманам і смехам дзяцей, апусцее. Тады і вёска пастарэе, пасумнее. Дзеці і настаўнікі будуць даязджаць у Крывую. Там зараз пустуе новы школьны будынак. Разам з пасынкаўскімі школьнікамі будуць вучыцца і дзеці з Крывой, якія зараз даязджаюць у Орлю.

— У нас няма ні ўмоў, ні дастатковай колькасці дзяцей, — гаворыць дырэктар Яўген Хількевіч.

У школе няма патрэбнага абсталявання, прыбіральняў. Дзеці праводзяць заняткі ў спалучаных класах. Другі клас зусім не існуе. У школе толькі 35 дзетак.

— У наваколлі ёсць вёскі, дзе зусім няма дзяцей, — гавораць настаўнікі. У ліку такіх вёсак называюць Кожына і Ступнікі. Ано з Зубава дзесяць школьнікаў, дванаццаць з Пасынак, пяць з Пілiпак, чатырох з Сакоў, двое з Мякіш, па адным з Локніцы і Трашчотак.

У школе вельмі сімпатычныя вучні. Усе яны ведаюць „Зорку", бо часта чытаюць яе на ўроках беларускай мовы. Настаўніца Раіса Ваўранюк, якая раней вучыла тут беларускай мове, прадставіла мне дэкламатараў. Сярод іх былі: Аня Паўлючук з III класа, Міра Сідарук, Лукаш Нічыпарук і Ася Карчэўская з IV класа. Некаторыя з іх будуць і далей прымаць удзел у гэтым конкурсе. Прыемна было таксама сустрэцца з беларускамоўнымі дзеткамі. У Пасынках усе яшчэ так гавораць. Многія хлапчукі, пабачыўшы маю цікавасць, даказвалі як старыя жартаўнікі. Варта адзначыць, што ўсе васьмікласнікі збіраюцца ў сярэднія школы. Найбольшае зацікаўленне выклікае тут Бельскі беларускі ліцэй. Туды збіраецца лаўрэатка школьнага прадметнага конкурсу па рускай мове Галена Шаховіч.

Напрыканцы школьнага года ўсе васьмікласнікі паедуць на экскурсію ў горы. Наведаюць яны Кракаў, Закапанэ, Вялічку, Айцоў. Разам з ім будуць падарожнічаць таксама вучні з Кнараў. Пасля сустрэчы з васьмікласнікамі бачу іх радасць. Яны ў лепшым становішчы, чым іх малодшыя сябры. Не трэба ім пераносіцца ў Крывую.

— Але ж яны і так пойдуць у свет, яшчэ далей вучыцца, — чую разважанні. Аднак гэтыя змены мала каго хвалююць. Найбольш перажывуць вучобу у новай школе вучні малодшых класаў.

— Заедзем на трактары ў тую Крывую, разбярэм іх школу і ў сябе паставім, — запэўнілі мяне наймалодшыя, жулікаватыя хлапчукі.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**



*Вучні і настаўнікі з Пасынак.*

## Мой скарб

Як і кожны ў маёй старане,
я багацце нязмернае маю.
Ды не ў грошах,
не ў золаце,
не!
У любові да роднага краю.

Гэты скарб не схаваны ў зямлі,
не закуты ў іржавай скарбонцы.
Ён вясною
з адталай раллі
узнімаецца рунню да сонца.
Не кладзецца ў далярах на стол
і працэнтаў мой скарб не
прыносіць.
Ён пладамі даспелымі
ў дол,
рэха будзячы,
бумкае ўвосень.

Скарб той крыецца ў кожным
кутку
неабсяжнай маёй Беларусі.
Рады я дружбаку, земляку,
з ім пароўну багаццем дзялюся.

Беларусь!
Узараную,
дымную,
у лістоце бяроз і дубоў —
абдымаю цябе,
неабдымную,
ты — багацце маё і любоў.

**Артур Вольскі**

*Вучнёўская творчасць*

## Вясна

На небе сінім, на траве зялёнай
Убачыш вясну ў фіялкавай кароне.
Крочыць яна лёгка ў паветры
празрыстым,
Па градах пралесак, па рачулцы
чыстай.

Куды яна гляне, там свет ажывае,
Бо такую сілу ў вачах вясна мае.
Цягнуцца за ёю дываны бясконца
Каляровых кветак, вытыканых
сонцам.

Хто хоць раз убачыць падобныя
дзівы,
Пабяжыць з вясною на родныя нівы.
Адчуваў я гэта, і ўсё ўспамінаю,
Як птушачкай лётаў — як у нейкім
раі.

**Кшысь Саевіч**

## Вясна

Сіняе неба ззяе з-за акна.
Вясна надышла — расцвіла зямля.
Вясёлы вяночак з лотаці жаўцее —
На родным лузе кветачкі паселі.

Зазірае вясна і ў хату бабулькі
І праменьчык сонца кідае ёй у рукі,
І маршчыны гладзіць, весела смяецца,
Душу абагрэе і суцешыць сэрца.

**Бася Жубэр**
***Бася і Кшысь вучацца ў VII кл. ПШ у Дубічах-Царкоўных***

## Вясна

Ура, ура!
Прыйшла вясна!
З цяжкім мехам,
А ў ім многа кветак

Белых, чырвоных,
Жоўтых, зялёных.
І трава таксама прыйшла.
Пакланілася і сказала:
„Вітай красна".

Прыйшоў бусел
У чырвоных ботах
Затупаў імі
Па мокрых балотах.

**Юліта Вэршко, кл. V „е"**
**ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**



*Малюнак Асі ТАМАШУК*

## Князь Канстанцін Астрожскі

Канстанцін Астрожскі паходзіў з роду турава-пінскіх князёў. Нарадзіўся ў 1460 годзе, калі Вялікае княства Літоўскае перажывала сваё залатое стагоддзе. Цэлае жыццё князя прайшло ў змаганні за захаванне цэласці і незалежнасці свае дзяржавы.

Вайсковую кар'еру пачаў ён на вайне з крымскімі татарамі, якія безупынна парушалі паўднёва-ўсходнія межы краіны. Пасля прыйшлі войны з Маскоўскім княствам, падчас якіх выявіўся вялікі вайсковы талент маладога беларускага князя. У 1496 годзе Канстанцін Астрожскі атрымаў званне вялікага гетмана, начальніка беларуска-літоўскай арміі. Стваралася тады татарска-маскоўская кааліцыя, накіраваная супраць Вялікага княства. Татары, зняволіўшы Украіну, спаліўшы Кіеў, дайшлі да Палесся. Ад усходу ў межы Беларусі ўварваліся маскоўскія войскі. Беларусь мела тады ў пяць разоў менш салдат, чым налічвалі іх арміі захопнікаў. На стварэнне новых харугваў князь Астрожскі аддаў нават сваю прыватную маёмасць. І толькі дзякуючы яго ваенным талентам грабежнікі вымушаны былі пакінуць межы Вялікага княства. Найбольшую славу ў войнах супраць татараў і Масквы прынесла князю бітва пад Оршай 8 верасня 1514 года, у якой беларускае войска разбіла ўтрая большую маскоўскую армію. У сапраўднасці гэта бітва вырашыла пра незалежнасць Беларусі. Масква пасля Оршы дзесяткамі гадоў не была ў змозе атакаваць Беларусь.

Аршанская бітва доўгімі гадамі была галоўнай тэмай размоваў у палацах і замках еўрапейскіх манархаў. Імя князя Астрожскага ведалі ва ўсіх краінах. Ад часу Ганібала, такой перамогі, над мацнейшым у некалькі разоў праціўнікам, у Еўропе не было.

# Велікодныя звычаі

На апошнім перад святам уроку беларускай мовы настаўніца сказала нам прыгатаваць звесткі пра велікодныя звычаі. Усе вучні на свята сустракаліся з блізкімі. Мы распытвалі пра велікодныя традыцыі. Аб многіх з іх я дагэтуль і не чула. Найбольш цікавага мае аднакласнікі даведаліся ад бабуляў і дзядуляў.

У нядзелю перад Вялікаднем усе асвячаем галінкі вярбы. „Пальмы" павінны быць прыгожыя. Трэба, каб на іх былі маладыя лісточкі. Найлепш прынесці вярбу дахаты некалькі дзён перад Вербніцай і ўставіць яе ў ваду. У цяпле напэўна пакажуцца лісточкі. Свячоная вярба, уваткнутая за іконку, мае берагчы хату ад грому. Дабытак першы раз гаспадары выганяюць на пашу з вярбой у руцэ. Мае гэта забяспечыць посспех у гадоўлі.

Велікодны звычай асвячэння пасхі большасць ведае як свячэнне кусочка мяса, некалькіх яек, пірага і солі, якімі пасля дзелімся на снеданні ў першы дзень Вялікадня. Калісьці кошыкі з пасхай былі вялікія. Месцілася ў іх многа ежы для цэлай сям'і на ўсё свята. Разам з пасхай свяцілі таксама бульбу і яе як першую садзілі на полі, каб быў добры ўраджай. Свячонае лупінне кідалі для курэй, дзякуючы гэтаму мелі яны несці многа яек.

Яйкі малявалі на чырвоны колер. Фарбавалі іх у цыбульніку.

Людзі хадзілі на магілы сваіх блізкіх, дзе клалі яйкі і крышылі „паску".

Цешыліся разам з гэтага вялікага свята. На другі дзень па вёсцы хадзілі валачобнікі — групы дзяцей, якія спявалі велікодныя песні, а таксама песні аб вясне. Дзеці атрымлівалі ад хросных падарункі, званыя „валачобнымі", у ліку якіх абавязкова былі яйкі.

Свята — гэта час радасці, смеху і розных гульняў! Дзеці качалі з горкі яйкі. Яйка, якое пакоціцца найдалей, выйграе. Ведаю яшчэ іншую гульню, у якую сама люблю гуляць. Да гэтай гульні трэба найменш дзве асобы і яйкі, называецца яна „выбіткі" (выбіраецца наймацнейшае яйка). Яйкі можна было біць толькі на другі дзень свята. Старэйшыя палохалі дзяцей, што як будуць біць яйкі на першы дзень, то скура будзе злазіць ім з рук і будуць абіваць ногі.

Ёсць таксама традыцыя перакідаць яйкі над хатай. У месцы, дзе яно ўпадзе, трэба яго закапаць. Гэта мела забяспечыць здароўе і спакой жыхарам гэтай хаты.

Іншыя звычаі, аб якіх я даведалася, датычаць ужо не самога Вялікадня, але яны з ім моцна звязаны. У панядзелак, тыдзень пасля свят, адзначалі Провады. У гэты дзень хлопцы і дзяўчаты абліваліся вадой, каб запэўніць сабе і другім шчасце.

З вясной маім бацькам спалучаюцца таксама другія звычаі. Гэта „буслі-ная лапка" — пірог, які пяклі на свята Благавешчання і каравай на Юрыя. Тады гаспадары часта з бацькамі абыходзілі палі. Яны спявалі і крапілі збожжа свячонай вадой. Калі каравай каваўся ў збожжы, абазначала гэта вялікі ўраджай.

**Жанэта Роля, вуч. V „а" класа ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

### Як святкавалі нашыя продкі

Нашыя продкі мелі цікавыя велікодныя звычаі. На Вербніцу яны насілі ў царкву прыгожа прыбраныя вярбовыя галінкі. Вяртаючыся дадому, вырывалі з галінак лісце і гаварылі: „Будзь здарова, як карова". Нашыя продкі верылі, што дзякуючы таму іхнія дзеці не будуць хварэць на працягу года. Дома вярбовыя галінкі ўкладвалі за іконы або хавалі на гары. Мелі яны засцерагчы хату перад ударам грому.

У Вялікую Суботу нашы прадзеды малявалі яйкі на чырвоны колер — колер радасці і здароўя. Для гэтага выкарыстоўвалі цыбульнік. У святочны кошык клалі яйкі, хлеб, дрожджавы пірог, соль і каўбасу. Ежу гэту елі ў свята.

У нядзелю нашы продкі адпачывалі. На другі і трэці святочныя дні гулялі ў розныя ігры, у якіх прымяняліся яйкі.

У час свята нашыя продкі абдароўвалі сябе яйкамі. Хросныя бацькі, што прыязджалі да сваіх хросьнікаў, прывозілі ім таксама яйкі. Па вёсках хадзілі валачобнікі. Яны спявалі песні пра вясну і ўваскрэсенне Ісуса Хрыста. Людзі давалі ім яйкі, каўбасу і соль.

Нашыя продкі на Благавешчанне пяклі „бусліную лапу". Яна абазначала пачатак вясны.

Цяпер ніхто, на жаль, не пячэ „буслінай лапы" і не ходзяць валачобнікі. Багатыя традыцыі нашых прадзедаў гінуць, а мы павінны іх захаваць, каб застацца сабой — беларусамі.

**Аня Аўсянюк, кл. V „е" ПШ н-3 у Бельску-Падляшскім**

### Як цяпер святкуюць

Вялікдзень, гэта найбольшае рэлігійнае свята беларусаў. Яго святкуюць на памятку ўваскрэсення Ісуса Хрыста.

У народзе захавалася многа звычаяў і традыцый, звязаных з гэтым святам. Найбольш распаўсюджаным з'яўляецца фарбаванне яек. Яйкі фарбавалі нашыя бабулі ў лупінні цыбулі, зялёным жыцце, почках таполі, а цяпер мы купляем гатовыя фарбы.

Найбольш звычаяў захавалася да сёння на вёсцы. Вялікдзень святкуем тры дні. Людзі вітаюцца ўрачыстым „Хрыстос уваскрос!" На першы дзень свята не паляць у печы, не аблупліваюць яек. Дзеці ходзяць да сваіх хросных за „валачобным". На Вялікдзень людзі рыхтуюць многа ўсякай яды: пякуць кумпякі, мазуркі, „бабы", труць хрэн і фарбуюць яго бураком.

У гэты дзень ходзяць на могілкі падзяліцца са сваімі блізкімі памерлымі раднаснай навінай, што ўваскрос Хрыстос, кладуць на магілу свянцонае яйка. Тыдзень пасля Вялікадня, у панядзелак, адзначаюцца Провады і тады моладзь паліваецца вадой.

**Андрэй Таранта, кл. V „е" ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

### Як я святкавала Вялікдзень

Набліжалася Пасха. У хаце было ўжо чыста і адчувалася настрой Свята Вялікай Ночы.

У Вялікую Суботу мы з мамай прыгатавалі ўпрыгожаны кошычак. У ім мы паклалі ежу: два маляваныя на чырвоны колер яйкі, трошкі солі, мяса і пасхальны пірог. Усё гэта я накрыла белай сурвэткай. Пасля абеду я пайшла ў царкву, каб бацюшка пасвянціў ежу.

На другі дзень, у Вялікую Нядзелю, на снеданне мы з'елі свянцонку і паехалі на вёску да бабулі. Там прывітала нас цэлая сям'я. У бабулі на сталé стаяла вельмі многа смакавітых страў. Перш за ўсё мы пачаставаліся свянцоным салам, яйкам, мясам і пірагом. Усе цешыліся, што мы ўсе разам. Дзядзька, які быў за граніцай, расказваў вельмі цікава пра сваё падарожжа. Было вельмі весела. Пасля абеду мы пайшлі ў царкву на вячэрню.

У панядзелак я і мой брат усталі вельмі рана. Хутка з'елі і пачалі гуляць фарбаванымі яйкамі ў „біткі". Я цэлы час выйгравала і ўсе яйкі, якія пабіла, мусіла з'есці, але на шчасце ўсе памагалі мне. Мы таксама качалі яйкі па падлозе. Хто найдалей пакаціў, той даставаў ва ўзнагароду кавалак смачнага пірага. Усе добра і весела гулялі. Пасля мы паехалі на могілкі. На магілы паклалі мы свянцоныя яйкі, кветкі і запалілі свечкі. Потым наша сям'я ўзяла яйкі і пайшлі на шпацыр па вёсцы. З кім мы толькі спатыкаліся, ігралі ў „біткі". Мы заходзілі таксама да суседзяў, знаёмых і дзяліліся каляровымі яйкамі. Я нават пазнала новых сяброў, калі іграла яйкамі. Мы ўсе былі вельмі шчаслівыя і з усмешкай на твары вярнуліся дадому.

**Іліна Кубаеўская, кл. VI „ц" ПШ н-3 у Бельску-Падляшскім**

# Крыжаванкі № 19

### Польска-беларуская крыжаванка

Obuch
Atom
Ekonom
Lira
Gama
Rak
Punkt
Car
Poziomka
Pałac
Marzenie

Рашыце крыжаванкі, а адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванкі з 14 н-ра:**
**— Школьная крыжаванка**: „Красавік"
**— магічная**: крук, рада, удар, кара.

Узнагароды — альбомныя запісныя кніжкі — выйгралі: **Марта Тапалеўская** з Кленік, **Вяслаў Ільяшук** з Курашава, **Павал Грыгарук** з Махнатага, **Андрэй Чэрнякевіч** з Нарвы, **Кася Леанюк** з Гайнаўкі і **Анэта Яканюк** з Нарвы.

Віншуем! Узнагароды можна адабраць у рэдакцыі „Нівы" або чакаць іх у сваёй школе.

### Школьная крыжаванка

Пара года, калі прылятаюць да нас птушкі.
Чацвёрты месяц года.
„Хатняя" птушка.
Ловіць мышэй.
Піша вершы.
Правая альбо левая.
Ходзіш там вучыцца.
Маеш іх на галаве.
Беларускі ў Гайнаўцы.
Ідзе з коміна.

*(Гэтую крыжаванку даслала Марыля Аксянцюк, вучаніца VI кл. ПШ у Старым Корніне.)*

<u>Легенды Беластоцкай зямлі</u>

# Панская воля

Па ўсёй нашай зямлі беластоцкай, дзе, бывала, ні прыслухаца да згадак старэнькіх людзей, усюды можна было пачуць пра тое, як паны, гуляючы ў карты, прайгравалі сваіх слуг і служанак, бацькоў ад сем'яў, мацярок ад дзяцей, а нават цэлыя вёскі.

Гэтак было і з фальваркам Куроўшчына, што побач з Саколкаю. Належаў ён да нейкага пана Пупчынскага. Гэты ж пан уславіўся тым, што пра сваю гаспадарку дбаў, як сабака пра пятую нагу, — адно ездзіў па ўсёй акрузе дзь цэлымі днямі і начамі гуляў у карты і то на грошы. Раз выйграваў, другі раз прайграваў — здабытку ніякага не меў, але час правадзіў весела ды ўсё на чужы кошт, бо дзе гулянне, там і баляванне. І гэтак жа той панок Пупчынскі ўцягнуўся ў гульню, што ўжо без яе і жыць не мог. Але ж нарваўся ён аднойчы на такога ж, як і сам, карцёжніка Рачынскага.

Тры дні і тры ночы Рачынскі з Пупчынскім рэзаліся ў карты: адзін другога аніяк адолець не мог ды ні адзін, ні другі адступіцца ад гульні не хацелі — шляхоцкі гонар не дазваляў. Калі ўжо не хапіла грошай, пачалі кавалкамі свае зямлю, сенажаці ці лясы застаўляць, а калі і гэта вычарпалася, фальваркі разам з людзьмі пад розыгрышы паставілі. І выйшла так, што выйграў пан Рачынскі.

Справа пры сведках была, бо паўзірацца на такую падзею з'ехалася ўся шляхецкая акруга. Таму хочаш не хочаш пан Пупчынскі мусіў аддаць сваю Куроўшчыну пану Рачынскаму.

Што ж, згарнуў Пупчынскі лахі пад пахі, заплаканых жонку з дзяцьмі ў калымагу ўладаваў, прэч у свет падаўся і след па ім загінуў.

Прыехаў пан Рачынскі ў Куроўшчыну, стаў заглядаць ва ўсе куткі ды цешыцца свайму набытку. Сказаў аканому падаць сабе спісак паншчынных сялян. А сярод іншых было напісана: „парабак Рачынскі". Такое прозвішча даў чалавеку папярэдні пан за непаслухмянасць і вострты язык ды ў пакаранне да чышчання панскіх нужнікаў прызначыў. Як новы пан прачытаў ягонае прозвішча ды яшчэ пачуў, адкуль яно ўзялося, ускіпеў, разбушаваўся. Крыкнуў падаць яму брычку, ускочыў у яе і паімчаў да ксяндза.

У тыя далёкія часы на духавенстве ляжаў абавязак весці метрыкальныя кнігі ўсяе парафіі, упісваць калі кожны парафіянін нарадзіўся, жаніўся ці паміраў. Паводле гэтых запісаў улады бралі ў салдаты, часам выдавалі патрэбныя паперы.

Прыімчаўся пан Рачынскі на плябанію, сказаў ксяндзу падаць метрыкальную кнігу ягонага фальварка, тыцнуў пальцам у прозвішча таго селяніна: „Хам не можа называцца так, як я! — крыкнуў. — Закрэслі і напішы: Хамут. Вечным хамутом ён быў і будзе, а ўсе яго патомкі — Хамутнікі!"

Што ж, ксяндзу панскае слова — закон. Вось так парабак Рачынскі стаў парабкам Хамутом.

Пачуў і пераказаў **Мікола Гайдук**



Талон „Зоркі" № 19
12.05.1996

# Бельшчына ў фокусе

**20 і 21 красавіка ў бельскай ратушы праходзіла дыскусія на тэму: „Беларусы Бельска-Падляшскага ўчора і сёння". Прынялі ў ёй удзел навукоўцы, святары, грамадскія і культурныя дзеячы, палітыкі і журналісты. Мерапрыемства арганізаваў Беларускі саюз у Рэчы Паспалітай, пры фінансавай падтрымцы Фонду Баторыя і Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы.**

Арганізатары паставілі на абмеркаванне восем тэзісаў:

— тэрыторыя Бельшчыны ў гістарычнай прасторы;

— вобраз беларуса, беларускай грамадскасці Бельшчыны ў мінулым і зараз;

— беларуская культурная прастора Бельшчыны ў розных гістарычных перыядах;

— удзел беларусаў у культурным, эканамічным і палітычным жыцці Бельска-Падляшскага і ваколіцы ў мінулым;

— рэлігія ў жыцці беларусаў;

— беларусы Бельшчыны ў гісторыі беларускага народа;

— беларусы Бельска-Падляшскага і ваколіцы — сёння;

— перспектывы беларусаў Бельшчыны.

Як з гэтага відаць, праблематыка дыскусіі была надзвычай шырокая і на рэалізацыю двух апошніх пунктаў не хапіла часу. Але, як зазначыў **Яўген Вапа**, арганізатары хацелі паказаць багацце і разнароднасць яшчэ нераспрацаваных тэмаў. Калі ўдасца ладзіць цыклічныя сустрэчы, будзе магчымасць засяродзіцца над канкрэтнымі праблемамі.

Прафесар **Анатоль Цітоў** з Менска тэрыторыю Бельшчыны вызначыў на падставе захаваных картаў і суседніх культурна-адміністрацыйных цэнтраў — гербавых гарадоў. У розныя гістарычныя перыяды можна залічыць сюды такія мясцовасці, як: Нарва, Гонязь, Сураж, Кнышын, Бранск, Кляшчэлі, Орля. Прафесар **Юры Лабынцаў** з Масквы звярнуў увагу, што Бельская зямля не толькі геаграфічнае паняцце, але і гісторыка-культурнае.

**— Бельск, гэта сэрца памежжа,**

— сказаў ён, — тут сутыкаліся Усход з Захадам. У сярэдневякоўі слава пра яго ішла далёка за межы Рускай зямлі, па ўсёй Еўропе. На жаль, не захаваліся пісаныя крыніцы таго часу. Самая слаўная гісторыя Бельска дрэмле ў зямлі, чакае археолагаў.

Прафесар Лабынцаў зазначыў, што сёння пра гэтую унікальную зямлю пішуць у асноўным журналісты, а не вывучаюць яе навукоўцы. А тым часам шмат што мяняецца, напрыклад, хутка знікаюць мясцовыя мовы.

Гісторыкі з Беларусі гаварылі пра цяжкасці, калі праводзіцца спроба ўпісаць Беласточчыну ў беларускі кантэкст. Над усім стаяла там старажам палітыка і пільнавала, каб, барані Божа, не кранаць спраў суседніх дзяржаў.

Пра выніkі сваіх доследаў, якія склалі апошнюю кніжку „Польска-беларускае памежжа. Тоеснасць жыхароў" гаварыў сацыёлаг, прафесар **Андрэй Садоўскі** з Беластока. „Вобраз беларуса, як грамадскасці, як цэласці, гэта стэрэатып. Залежыць ён ад таго, хто яго стварае. У вачах паляка пагранічча, каталіка і патрыёта, беларус — праваслаўны, без голасных нацыянальных дэкларацый, паказных рэлігійных практык — явіцца пагрозай". Прафесар Садоўскі звярнуў увагу, што інакш сябе беларусы паводзяць у Бельску ці Гайнаўцы, дзе складаюць прынамсі палову насельніцтва, а інакш у Сямятычах ці Дуброве-Беластоцкай, дзе апынуліся ў меншасці. У першым выпадку можам гаварыць пра канфрантацыйны тып сужыцця — меншасць заўважальная, стараецца адыгрываць грамадскую ролю. Другі тып паводзін, асімілятыўны — меншасць невідочная ў публічным жыцці, свае традыцыі працягвае адно ў сям'і.

### Дыскусію здамінавала гісторыя

На жаль, падкрэсліў айцец **Рыгор Сасна**, мы сваю гісторыю самі пачынаем толькі цяпер пісаць, раней рабілі гэта за нас іншыя. Выдатным выключэннем былі тут толькі ў XIX стагоддзі прафесары Віленскага універсітэта з Падляшша: Міхал Баброўскі, Ігнат Даніловіч, Язэп Ярашэвіч. Прафесар Лабынцаў заўважыў, што не занялі яны яшчэ належнага ім месца.

**Дарафей Фёнік** і д-р **Яўген Мірановіч** гаварылі пра трагічныя падзеі, якія паўплывалі на фармаванне тутэйшага грамадства. Гэта і рэлігійная барацьба, розныя войны, знішчэнні, бежанства, рэпрэсіі ўсяляких акупантаў. У гэтым кантэксце тэрмін „тутэйшы" явіцца самаабаронай рэакцыяй, ён даваў магчымасць усё гэта перажыць.

**Славамір Іванюк** гаварыў пра дачыненні жыхарства Бельшчыны да агульнабеларускіх працэсаў, а прафесар **Ян Чыквін** — пра культурную пладавітасць пераходнай зоны, дзе кожны змалку як мінімум білінгвальны. „Такія выдатныя асобы польскай культуры як Міцкевіч, Славацкі ці Манюшка не маглі з'явіцца ў іншым месцы, — казаў Чыквін. — Таксама цяпер на Беласточчыне маем вельмі цікавыя літаратурныя з'явы, заўважаныя ўжо ў свеце".

Паводле прафесара Садоўскага, жыхары Бельшчыны найчасцей вызначаюць сябе як праваслаўных, прычым гэты тэрмін мае больш глыбокі, чымсці толькі рэлігійны сэнс. Але і паказвае ролю рэлігіі ў жыцці ды значэнне рэлігійнага фактара ў самаідэнтыфікацыі беларусаў Беласточчыны. Пра сувязі рэлігійнага і нацыянальнага гаварыў айцец благачынны **Юры Такарэўскі**. Адслужыў ён у нядзелю раніцай ва Уваскрэсенскай царкве ўрачысты малебен за беларускі народ, дзе ў звароце да вернікаў яшчэ раз падкрэсліў непарыўнасць праваслаўя і беларускасці.

У нядзелю была сарганізавана таксама аўтобусная экскурсія па Бельшчыне, якую вёў **Дарафей Фёнік**. Удзельнікі сустрэчы і групка моладзі з беларускага ліцэя ды іканапіснай школы ўбачылі — з-за аўтобуснай шыбы — Гацькі, Плёскі, Пасынкі, Орлю, Кляшчэлі, Вольку-Выганоўскую, Боцькі і сам Бельск. Спяшаліся, каб паспець на падрыхтаваны **Сяргеем Лукашуком** канцэрт, у якім выступілі: „Журавінка" з Пачатковай школы н-р 3, „Вядро" і „Дзявочыяноткі" з Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Б. Тарашкевіча, „Маланка" з Бельскага дома культуры і госці з Беластока: гурт „Ада", які спявае апрацаваны фальклор і рок-гурт „Кардон".

### Падсумоўваючы дыскусійную сустрэчу,

некаторыя ўдзельнікі сказалі, што замнога ў ёй было гісторыі. У будучыні трэба больш месца адвесці іншым галінам навукі ды аспектам сучаснай рэчаіснасці. А такія мерапрыемствы трэба ладзіць публічна, з удзелам мясцовай грамадскасці, асабліва моладзі. Шкада таксама, што мясцовая ўлада палічыла нявартым увагі абмен думкамі наконт сённяшняга дня горада.

**Валянціна Трыгубовіч** з Менска і **Генадзь Семянчук** з Гродна падкрэслівалі добрую, свабодную атмасферу дыскусіі, якая паяўляецца заўсёды тады, калі маем дачыненне да непрымушанай ініцыятывы, дзе нічога нікому не загадваецца. Спадар Семянчук, як навуковы супрацоўнік Гродзенскага універсітэта, прадставіў некалькі праектаў, якія, калі б былі сродкі, маглі б супольна рэалізаваць гродзенскія і беластоцкія даследчыкі. Гэта хаця б археалагічныя экспедыцыі ці каталог культавых помнікаў Бельшчыны.

Усе пагадзіліся, што ініцыятыву трэба працягваць.

**Мікола Ваўранюк**
*Фота аўтара*


*Удзельнікі экскурсіі каля магілы маці Міхала Баброўскага ў Вольцы-Выганоўскай.*


*У час дыскусіі: праф. Ю. Лабынцаў і праф. А. Садоўскі.*


*На вячэры (справа): д-р Г. Семянчук, праф. Я. Чыквін, праф. А. Цітоў.*

# Жыццёвы выбар

*(працяг са стар. 1)*

больная каманды. Наведалі мы таксама лабараторыю вымярэння і даследавання металаў, у якой займаюцца вучні апошніх класаў тэхнікума. Нашы вучні мелі магчымасць паглядзець пры дапамозе мікраскопа структуру металаў. Затым наведалі мы школьныя майстэрні па апрацоўцы драўніны, дзе нашым праваднікам быў Яўген Маркевіч. Многія элементы выконваюцца тут па заказу. З механічнай майстэрняй азнаёміў нас Мікалай Еўдасюк, які кіруе аддзяленнем тэхнічнага кантролю. Тут вучні здабываюць прафесіі слесара, токара і механіка. Прадукуецца тут галоўным чынам такарны станок WS-13, які зараз прадаецца па 1600 зл. Школьная майстэрня выпускае таксама вулічныя закрываныя сметніцы і ўсялякія металічныя дэталі па заказу.

Чарговым этапам нашай экскурсіі было наведванне Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання. Там сустрэў нас і аб школе расказаў дырэктар Яўген Сачко. З году ў год павялічваецца колькасць вучняў у ліцэі. Цяпер вучыцца 450 чалавек. У будучым навучальным годзе будзе прынята 120 вучняў. Выпускнікі ліцэя маюць магчымасць паступаць без экзаменаў на ВНУ ў Беларусі. У школе паспяхова развіваецца мастацкая самадзейнасць. Працуюць тут рок-гурты, вакальна-інструментальны калектыў, мастацкая майстэрня Віктара Кабаца. Юныя валейбалісты заваявалі сабе месца ў II лізе. У гэтым годзе будзе здадзена ў карыстанне спартыўная зала, а таксама вырашыцца справа будовы крытага плавальнага басейна.

Экскурсія дубіцкіх васьмікласнікаў закончылася ў Агульнаадукацыйным ліцэі № 1. Намеснік дырэктара Ванда Плясковіч абвяла нас па школе. Вучыцца ў ёй 600 чалавек. У першыя класы будзе прынята 150 вучняў. У ліцэі працуюць спартыўныя і фільмавы гурткі ды турыстычна-краязнаўчая і прыродаахоўная арганізацыі. Добра дзейнічае таксама вучнёўскае самакіраванне. Раз у год ладзіцца тут навуковая сесія з удзелам гасцей, на якую вучні самі рыхтуюць даклады. Сёлетняя сесія прысвечана была Белавежскай пушчы. Крытэрыі набору ў ліцэй падобныя як і ў іншых школах: балы за здадзеныя экзамены па польскай мове і матэматыцы і балы за ацэнкі па гэтых прадметах на школьных пасведчаннях мінус два балы за кожную ацэнку. Адрозненне складае адно новаўвядзенне: пашырэнне шкалы балаў за ацэнкі па фізіцы, хіміі, біялогіі, геаграфіі і гісторыі на пасведчаннях.

Лічу, што наведванне школ васьмікласнікамі ў значнай ступені дапамагае ім прыняць рашэнне аб выбары прафесіі. Усім сёлетнім выпускнікам пачатковых школ жадаю поспехаў на ўступных экзаменах.

**Славамір Кулік**

# 10 гадоў Чарнобыля

У дзесяцігоддзе катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі Кабінет Міністраў Беларусі дзень 26 красавіка аб'явіў днём жалобы, днём рэквіем. Нельга ў рэспубліцы праводзіць гэтага дня мерапрыемствы забаўляльнага характару.

23 красавіка г.г. у Генеральным консульстве Рэспублікі Беларусь у Беластоку адбылася прэс-канферэнцыя, прысвечаная гадавіне чарнобыльскай падзеі.

— Сусветная грамадскасць — сказаў генеральны консул Рэспублікі Беларусь **Міхал Слямнёў**, — не заўсёды адэкватна ацэньвае наступствы чарнобыльскай катастрофы. Важна, каб праз сродкі масавай інфармацыі да людзей паступала праўда пра рэальнае становішча спраў. А праўда такая, што кожны пяты беларус на сабе гэту трагедыю адчуў...

У выніку перасяленчай акцыі з забруджанай зоны была вывезена 131 тысяча жыхароў. Акцыя гэта праводзілася наспех, а ў выніку было зроблена шмат памылак — перасяленцаў не заўсёды добра падбіралі. **Два мільёны жыхароў, а ў іх ліку 500 тысяч дзяцей надалей пражывае ў гэтак званай зоне.** У выніку забруджанасці радыеактыўнымі ападкамі гаспадарка Беларусі страціла 6 000 кв. км зямлі, палова якой (3 000 кв. км) — землі самай высокай ураджайнасці. 400 населеных пунктаў (вёскі і мястэчкі) засталіся без жыхароў, пустымі. Мясцовасці гэтыя цяперашнім часам прываблівая для ўцекачоў з зонаў міжнацыянальных канфліктаў у былым СССР, а таксама для ўсякага крымінальнага элементу — яны там пасяляюцца ды жывуць, хоць гэта забаронена.

— **Гаспадарчыя страты Беларусі** — сказаў консул, — **складаюць агулам суму 235 мільярдаў долараў ЗША, што з'яўляецца раўнавартасцю 32 гадавых бюджэтаў Рэспублікі.** Беларусь не будавала і не размяшчала на сваёй тэрыторыі атамных электрастанцый, а ў выніку пацярпела больш за Украіну і Расію. Пасля распаду СССР невядома дзе „знайсці канцы" ды каму прадставіць рахунак за свае страты. Самой Беларусі не справіцца з ліквідацыяй вынікаў чарнобыльскай катастрофы — мы спадзяемся на дапамогу еўрапейскай і сусветнай супольнасцей.

У ліквідацыі вынікаў катастрофы дзесяць гадоў таму прыняло ўдзел 100 тысяч людзей. Цяпер называецца іх **ліквідатарамі.** У апошні час сярод ліквідатараў, якія прымалі ўдзел у непасрэдных дзеяннях у Чарнобылі, насіліліся выпадкі самагубстваў. Лік захворванняў на шчытападобную залозу (tarczycę) павялічыўся ў Беларусі ў 200 разоў. На канферэнцыі „Дзесяцігоддзе пасля Чарнобыля", якая арганізавалася ў Вене Міжнародным агенцтвам па атамнай энергіі МАГАТЭ, беларуская дэлегацыя прадставіла некалькі праектаў. Адзін з іх датычыў аб'яднання міжнародных намаганняў дзеля комплекснай распрацоўкі пытання аб наступствах катастрофы, другі — стварэння фонду, у які паступалі б сродкі ад ядзерных карпарацый свету з мэтай выкарыстання іх для ліквідацыі шкодаў учыненых ядзернай прамысловасцю, а яшчэ іншы — закону аб адказнасці дзяржаў за ядзерныя шкоды, якія наносяцца іншым дзяржавам.

Выбух, які наступіў 26 красавіка 1986 г. у Чарнобылі не быў ядзерным выбухам, але яго наступствы сталі далёка страшнейшымі за ўзрыў атамнай бомбы над Хірасімай. Гэтага дня ў электрастанцыі праводзіўся эксперымент, на патрэбу якога былі адключаны аварыйныя сістэмы рэактара. Эксперымент гэты прапаноўваўся шэрагу электрастанцыям у былым Саюзе. Іхнія дырэкцыі адмовіліся з-за небяспекі катастрофы, але дырэкцыя Чарнобыльскай АЭС пагадзілася. Рэактар электрастанцыі разарваўся ад вялікага ціску пары, якая ў ім вытваралася, а аварыйныя сістэмы, якія нармальна спынілі б працу рэактара, былі знарок адключаны. У паветра шуганулі воблакі радыеактыўных рэчываў. Вецер, які звыш тыдня часу дзьмуў на паўночны захад, панёс гэтыя воблакі над Беларусь. І на Беларусь менавіта ўпала, як мяркуецца, дзве трэція ўсіх радыеактыўных рэчываў. Беларусь ад Чарнобыля пацярпела *выпадкова*. Калі б той жа вецер дзьмуў у іншы бок, сёння „на каленях" стаяла б іншая дзяржава. Катастрофа ў Чарнобылі была вынікам абюракрачанасці ў навуцы, якая не брала пад увагу разумнай калькуляцыі і небяспекі. За абюракрачанасцю аднак стаяць рэальныя людзі. Рэальнай таксама бяда, у якой, не па сваёй віне, апынуўся беларускі народ.

**Аляксандр Максімюк**

# Oświadczenie

**Kancelarii Prawosławnego Arcybiskupa Białostockiego i Gdańskiego w sprawie treści komunikatu Kurii Metropolitalnej w Białymstoku, dotyczącego Klasztoru w Supraślu**

Białostocki „Kurier Poranny" z dnia 22 kwietnia 1996 r. podał do publicznej wiadomości treść komunikatu Rzymskokatolickiej Kurii Metropolitalnej w Białymstoku w sprawie klasztoru w Supraślu. Według posiadanych przez nas informacji, oficjalne oświadczenie Kurii w tej sprawie było także odczytane we wszystkich kościołach rzymskokatolickich archidiecezji białostockiej oraz zostało podane przez rzecznika Kurii w Polskim Radio Białystok.

Wnikliwe przestudiowanie treści komunikatu, samo przez się, nasuwa smutny, bolesny komentarz. Przytoczone dane historyczne i merytoryczne, dotyczące losu klasztoru supraskiego, <u>są nieprawdziwe</u>, budzą wątpliwości i zmuszają do stawiania wielu poważnych pytań. Do tej części wypowiedzi odnosić się nie będziemy. Wszystkich zainteresowanych odsyłamy do źródeł historycznych.

Pragniemy natomiast ustosunkować się do stwierdzeń, które obrażają wiernych prawosławnych, nazywając ich „szowinistami" „antagonizującymi środowisko białostockie".

Autorów komunikatu pragniemy poinformować, że rzeczywistość, <u>ta obiektywna</u>, jest zupełnie inna. W środowiskach Białegostoku i Białostocczyzny zawsze miał miejsce spokój i wzajemny szacunek. Ludzie żyli i żyją pomiędzy sobą bez wzajemnych uprzedzeń, bez różnicy na wyznanie czy ideologię. Tak oceniają sytuację sami mieszkańcy Białegostoku. Taka sytuacja widocznie nie wszystkim odpowiada i dlatego czynione są próby skłócenia mieszkańców naszego regionu. Czegoś podobnego nie było jeszcze kilka lat wstecz. A może jest to wskazówka Kurii Metropolitalnej w Białymstoku w jaki sposób nasze polskie społeczeństwo powinno wchodzić do struktur europejskich?

Wśród tych smutnych refleksji pragniemy zrozumieć, jak ma się to stwierdzenie do wypowiedzi Sekretarza Stanu Kardynała Angelo Sodano, zawartego w Jego liście z dn. 19 kwietnia 1996 r. nr 2987/96/RS, skierowanym w imieniu Jego Świątobliwości Jana Pawła II do jego Eminencji Metropolity Bazylego, Głowy Polskiego Autokefalicznego Kościoła Prawosławnego: „Wasza Eminencja poruszył również sprawę klasztoru w Supraślu. W międzyczasie, jak wiadomo, władze cywilne przyznały ten klasztor prawosławnej parafii p.w. Zwiastowania Matce Bożej i św. Jana Teologa w Supraślu. W imieniu Ojca Świętego życzę, aby zakończenie tego sporu stało się okazją do dalszej promocji ekumenicznego dialogu i do jeszcze lepszych stosunków między katolikami a prawosławnymi".

Nasuwa się pytanie: czy treść komunikatu Kurii Metropolitalnej w Białymstoku ma coś wspólnego z wyżej przytoczonym stwierdzeniem? Niech obiektywnie ocenią to sami obserwatorzy tzw. „sprawy supraskiej".

My zaś, jako uczniowie Chrystusa, w imię Zmartwychwstałego Pana, po raz kolejny wybaczamy obelgi kierowane pod naszym adresem.

Kancelaria Arcybiskupia potwierdza aktualność oświadczenia Jego Ekscelencji, Arcybiskupa Sawy, Ordynariusza Prawosławnej Diecezji Białostocko-Gdańskiej z dnia 4 marca 1996 r.

**Sekretarz Kurii Arcybiskupiej**
**ks. mgr Mikołaj Podolec**

# З жыцця Царквы

Брацтва святога Мікалая арганізавала новы пункт сацыяльнай дапамогі найбяднейшым у доме парафіі Усіх Святых. Гэта арганізацыя адкрыла яшчэ амбулаторыю ў прыхадскім будынку царквы Агія Сафія па вул. Травястай 5 у Беластоку.

Яна адначасова дапамагае м.інш. фінансава Праваслаўнай парафіі ў Салечніках на Віленшчыне (Літва).

* * *

Рада Бельскай гміны перадала будынкі былой турмы ў вёсцы Кожына Праваслаўнай парафіі ў Кленіках. У канцы 1997 года тамашнія парафіяне і братчыкі з Брацтва святых Кірыла і Мяфодзія адкрыюць у іх асяродак грамадскай дапамогі, у якім будзе месц жыллё для сябе каля 50 чалавек.

* * *

Зараз будуюць Благавешчанскі сабор (гатовы ўжо сцены) у Супраслі ды Свята-Юр'еўскі храм у Беластоку (тут найперш паставяць часовую царкоўку).

**(яц)**

# Чарнобыльская дэкада

Дзесяць гадоў пасля катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі сродкі масавай інфармацыі ўсяго свету прысвяцілі гэтай тэме не менш увагі, чым у 1986 г., калі сотні мільёнаў жыхароў нашай планеты ўпершыню пачулі слова „Чарнобыль". Наконт паслядоўнасцей аварыі тады былі толькі ўсялякія прагнозы, сёння ёсць канкрэтныя даныя, статыстыка, якая адлюстроўвае размер трагедыі.

70 працэнтаў радыяцыйнага пылу з украінскай электрастанцыі ўпала на беларускую зямлю. Палова тэрыторыі рэспублікі была забруджана ўсялякімі радыенуклідамі. У Нямеччыне, дзе чарнобыльская хмара прынесла непараўнальна меншую радыяцыю, чым на Гомельшчыне, улады раілі сваім грамадзянам не піць малака, не есці агародніны, не выходзіць без патрэбы з дому, не пускаць дзяцей гуляць пад адкрытым небам. Савецкія ўлады ў той час пераконвалі сваіх падданых, што нічога асаблівага не здарылася. Ужо ў 1986 г. гаварылася на Захадзе, што радыяцыя ад чарнобыльскай электрастанцыі ў пяцьсот разоў перавышае тую, якая ўзнікла пасля выбуху бомбы над Хірасімай. Ад таго часу з прычыны прабывання ў забруджанай зоне захварэла і памерла 120 тысяч людзей.

У Беларусі чарнобыльская трагедыя ўжо адмоўна паўплывала на натуральны рост насельніцтва краіны. Лік грамадзян Беларусі з году ў год паменшваецца. Ніхто не ўзмозе акрэсліць, у які спосаб радыяцыя паўплывае на наступныя пакаленні. Прыклад Хірасімы сведчыць аб тым, што хварэюць не толькі дзеці, але таксама ўнукі ахвяр непасрэднага апрамянення.

У забруджаных раёнах Беларусі пражывае каля 2 мільёнаў жыхароў. Найбольш пацярпелі тыя, якія прымалі ўдзел у ліквідацыі вынікаў аварыі. Са 100 тысяч ліквідатараў 68,8% сёння ўжо хранічна хворыя. Апрача хвароб шляхоў дыхання, органаў стрававання і кровазвароту, павысіўся паказчык анкалагічных захворванняў і парушэння псіхічнай сістэмы. Радыяцыя асабліва моцна паўплывала на дзяцей, якія нарадзіліся пасля катастрофы. Паталагічныя змены ўнутраных і вонкавых органаў здараюцца ў апошніх гадах у чатыры разы часцей, чым да катастрофы. У Гомельскай вобласці, дзе забруджанне было найбольшае, у тры разы часцей выступаюць выпадкі псіхічных хвароб сярод наймалодшых. Раптоўна таксама ўзрастае колькасць захворванняў цукровым дыябетам і бранхіяльнай астмай. У 1992-1993 гадах сярод памерлых жыхароў Беларусі 23% гэта людзі працаздольнага ўзросту. Ніхто не можа прадбачыць, колькі будзе захворванняў на злаякасныя пухліны. Гэтая хвароба з'яўляецца пасля нейкага часу ад моманту апрамянення. У 1986-1993 гадах паказчык анкалагічных захворванняў павысіўся на 42,7%, у параўнанні да аналагічнага перыяду 1978-1985 г.г. У забруджаных раёнах сярод мужчын і жанчын часта выступае няплоднасць, з увагі на генныя і храмасомныя мутацыі. Гэтыя людзі не дачакаюцца нашчадкаў. Беларусь чакае чарговая, гэтым разам дэмаграфічная катастрофа.

Эканамічныя страты Беларусі ад чарнобыльскай катастрофы складаюць 235 мільярдаў долараў, што ў 32 разы перавышае дзяржаўны гадавы бюджэт краіны. Замежная дапамога мае сімвалічны характар. Спісак няшчасцяў дапаўняюць улады краіны, якія не маюць ніякай канцэпцыі дапамогі сваім грамадзянам, апрача тэрору ў адносінах да тых, што дамагаюцца зменаў.

**Яўген Мірановіч**

**У Нурцы-Станцыі спявачы калектыў складаецца з шасці чалавек. Толькі адна жанчына — праваслаўная, усе астатнія — каталікі. Спяваюць беларускія песні.**

# Нурэц-Станцыя. Паэтычна і музычна

Нагодай, дзеля якой давялося мне пабываць 20 красавіка г.г. у Нурцы-Станцыі, было паэтычна-музычнае мерапрыемства пад лірычнай назвай „Паэтычныя растопы".

— Такую сустрэчу народных паэтаў і пісьменнікаў мы наладжваем тут упершыню, — сказала мне Яўгенія Раманюк, кіраўнік Гміннага асяродка культуры ў Нурцы-Станцыі, яна ж і галоўны арганізатар урачыстасці.

Аднак жа Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку праводзіць у апошнія гады такія сустрэчы па ўсёй Беласточчыне амаль так рэгулярна, як рэгулярна змяняюцца поры года — неадлучны элемент натхнення паэтаў наогул, а непрафесіянальных — асабліва. Вясной — „Паэтычныя растопы" вось, летам — „Паэтычныя сенакосы", „Паэтычныя прымаразкі" — бліжэй да зімы. Як вядома, на Беласточчыне пражывае даволі актыўная група народных, непрафесіянальных творцаў. У Нурцы-Станцыі пражывае 81-гадовая паэтка Станіслава Грабаноўская і з прычыны выпуску ВААКам яе зборнічка „Tęcza" сабраліся ў мясцовым ГОКу прыбыўшыя госці. Паэтка няшмат піша пра сваё вандроўнае жыццё, з яго завірухамі і нягодамі, хаця прайшла яго ад Чорнай-Беластоцкай — аж праз Сібір і Манрэаль у Канадзе — да Нурца-Станцыі. Канцэнтруецца, быццам маладая дзяўчына на каханні, на дзецях, уважліва назірае за прыродай, за ўсім, што дзеецца побач з ёю:

*W Grabarce, na wysokiej górze,*
*W lesie cerkiew się kryje.*
*Z boku zaś tej góry*
*Cudowne źródło bije.*
*(„Święta Góra")*

Слухаем вершы Станіславы Грабаноўскай у выкананні беластоцкай артысткі Зулі Бжэзінскай, а вакальны калектыў з Нурца-Станцыі пераплятае іх сваімі песнямі.

Да гэтых жанчын-спявачак з Нурца-Станцыі выбіралася я ўжо даўно. Заінтрыгаваў мяне факт адданасці роднай, беларускай песні, хаця ўсяго адна жанчына ў гэтым калектыве — праваслаўны чалавек. У нурэцкім жа — моцна мешаным — асяроддзі каталіку значна лягчэй і выгадней атаясамлівацца з польскай культурай.

Гасцей „Паэтычных растопаў" калектыў прывітаў польскімі словамі (праўда, песня была на матыў песні кампазітара Дунаеўскаяга „Как много девушек на свете"), і наступная песня таксама была польская. Ну, думаю, бабанькі, ці вы на гэту імпрэзу перасталі быць сабою?! І раптам... накінуўшы на белыя блузкі чорныя хусткі ў чырвоныя кветкі, як не грымнуць сваю, мясцовую, блізкую ад дзяцінства! Я думала, што авацыя разнясе гэту залу. Муры, аднак, будынка, дзе сёння месціцца нурэцкі ГОК, аказаліся моцныя, і жанчыны ўжо спявалі песні напераменку то па-польску, то на сваёй гаворцы.

Калектыў выступае ўжо паўтара года. Іх старт адбыўся ў кастрычніку 1994 года ў Заблудаве. Праўду сказаўшы, дык намовіла іх тады на выступленне ў конкурсе сакральнай песні Яўгенія Раманюк, кіраўнічка ГОКу. Ад таго і пачалося.

Ужо выступалі і ў Драгічыне два разы (на конкурсах каляднай і фальклорнай песні), і ў Сямятычах два разы, і ў Міхалове — сярод калядных калектываў, і два разы (у мінулым годзе і сёлета) — на фестывалі беларускай песні ў Беластоку. Спявалі нават на гала-канцэрце.

Сёння члены калектыву гэта: Сафія Германовіч, Генавефа Кажанецкая, Аліна Сіта, Лідзія Яращук, Марыя Ядчук і акампаніятар Станіслаў Германовіч. Усё, што спяваюць на ўласныя словы, — аўтарства Сафіі Германовіч. Рэпетыцыі жанчыны праводзяць у бібліятэцы ГОКу.

— Часамі наведвае нас Сцяпан Копа, — гавораць яны. — Слухае ўважна, тады нешта падказвае, выпраўляе, раіць, каб было лепш. Дапамагаў нам ад пачатку. Вось і цяпер чакаем яго.

А я ўжо раней чула ад С. Копы пахвальныя словы пра гэты калектыў. Гэтыя жанчыны проста захапляюць, гаварыў ён мне. А калі ёсць штосьці добрае, то ўжо Сцёпа не даруе — мусіць спяваць! Гэта мы ведаем. Прафесіянальная дапамога маладому калектыву — як вада для кволай раслінкі.

Убачыўшы рэакцыю сабраных на беларускую песню, пэўна, і жанчыны зразумелі, што найбольш каштоўнае ў іх творчасці — гэта сваё, мясцовае, аўтэнтычнае. І менавіта гэта варта і трэба культываваць, каб зберагчы сваю песню ад памірання.

А што датычыць імпрэзы, дык хто хацеў — віншаваў Станіславу Грабаноўскую, хто хацеў — чытаў свае вершы. Вядома, не вытрымала і баявітая Надзя Дудзік (як жа ж бы абышлося без яе!), але дазволілі прачытаць ледзь адзін верш:

*Па календары яшчэ вясна*
*І снегу у лесе даволі,*
*А шпак прыляцеў ўжо да нас,*
*Спявае на нашай таполі.*
*(„29 сакавіка 96 года").*

А была тут не толькі 83-гадовая Надзя Дудзік з Гарадка, але і Язэп Карпюк з Сямятыч, і 84-гадовы Хведар Хлябіч з Рыбакоў. Хведар Хлябіч не адважыўся чытаць сёння свае вершы перад усімі, але мне прачытаў свой глыбока „жыццёвы" верш у аўтобусе па дарозе дахаты. Па-беларуску, а пасля і ў яго ж перакладзе на польскую мову.

Што датычыцца „Нівы", дык з ёю ў Нурцы-Станцыі бяда. На пошце нас паінфармавалі, што атрымліваюць усяго 6 экземпляраў, ды і тыя не ўсе разыходзяцца. Людзі, якія чыталі „Ніву" пастаянна, ужо паўміралі, а цяпер жа хто з маладзейшых чытаць умее, калі нават рускую мову ў школах ліквідавалі...

— Ну, на пошце, вядома, „Ніва" ёсць, — сказалі мне спявачкі з калектыву, — але тут і польскіх газет усіх не перачытаеш, ды і мову сёння мала хто ведае. Але, калі пра нас штосьці напісана, вядома, купляем!

І тут вывад для нас адзін — часцей пісаць пра людзей, бо сёння такую сітуацыю, як у Нурцы-Станцыі, назіраем не ў адной мясцовасці пагранічча.

**Ада Чачуга**
*Фота аўтара*



*Спявае калектыў з Нурца-Станцыі.*

# З мінулага маёй вёскі, сям'і і мясцовасці

***(працяг, пачатак у 18 н-ры)***

А цяпер давайце заглянем у больш адлеглую мінуўшчыну маёй вёскі.

Пад канец прыгону або паншчыны наша вёска належала да кленіцкага двара і пана. Філіял гэтага двара быў і каля нашай вёскі. Месца, дзе стаяў ён, дасюль называецца „дворыском".

За часоў майго дзяцінства яшчэ можна было пачуць ад старэйшых людзей пра паншчыну. З усіх гэтых пераказаў відаць, што вельмі цяжка жылося нашаму народу тады.

Намнога больш вядома ўжо пра адмену прыгоннага права, паншчыны ці волю і правядзенне зямельнай рэформы ў нас. Гэтую рэформу праводзіў у нас нейкі Тура. Нецікава ўпісаўся ён у гісторыю нашай вёскі.

Адмена паншчыны ці воля зводзілася да таго, што кожны прыгонны чалавек, а ўсе жыхары маёй вёскі былі прыгоннымі, мелі атрымаць асабістую волю — незалежнасць ад свайго пана і іншых паноў. Хаця не адразу, гэта па-першае.

Зямельная ж рэформа зводзілася да таго, што кожная прыгонная сям'я атрымала зямельны надзел, які ў нас называўся ўчасткам. Усе ўчасткі ў сваёй вёсцы павінны былі быць роўныя, але розніліся яны сваёй велічынёй паміж паасобнымі вёскамі.

Надзеленая сялянам зямля была панскай, бо вольнай зямлі ў нас не было. Уся зямля і на зямлі было ўжо чыейсьці ўласнасцю. Толькі наш тутэйшы селянін, як кажуць, соль зямлі гэтай, нічога на ўласнасць не меў. Наадварот, ён сам быў дасюль уласнасцю свайго пана.

Участак у маёй вёсцы раўняўся дванаццаці гектарам з нейкай лішкай. У іншых нашых вёсках ён мог мець чатырнаццаць, пятнаццаць, шаснаццаць, а мо і яшчэ больш гектараў.

Ці многа гэта, ці мала?

І не мала, але не так ужо і многа. Тагачасныя сем'і былі вялікія, а зямля давала ўраджаі слабейшыя, чым цяпер. І ўсё ж такі гэтая рэформа склаўшуюся сялянскую праблему на нейкі час вырашыла.

Чаму ў маёй вёсцы зямельныя надзелы былі меншыя?

Вось чаго на гэтую тэму даведаўся калісьці я ад нашых вясковых старажылаў.

Згодна з тадышнімі законамі, для нагляду над правядзеннем рэформы і для дапамогі землямеру Туры былі таксама выбраны ўпаўнаважаныя і ад сялян. (Вось як глыбока сягаюць у нас карэнні дэмакратыі і плюралізму.) Невядома чаму, гэта наша маладая дэмакратыя і плюралізм разам з чыноўнікам Турай рашылі ціхачом частцы нашых сялян даць меншыя надзелы, частцы большыя — поўныя ўчасткі. Калі ўжо зямля на ўсю нашу вёску была выдзелена і рабіліся персанальныя планы, пакрыўджаныя даведаліся аб свінстве і адразу пабеглі з „челобитной" да пана і ў іншыя інстанцыі. Гэтыя інстанцыі патрабавалі задаволіць просьбу „челобитчиков" і Тура змушаны быў выдзелены ўжо для вёскі арэал падзяліць цяпер на роўныя часткі. І такім чынам нашы ўчасткі сталі меншымі. Але гэта не канец яшчэ клопатаў з рэформай у нашай вёсцы.

Па ўсім відаць, што ў тагачаснай нашай вёсцы жылі як моцна разумныя людзі, так, на жаль, і неразумныя, розныя крыкуны і п'яніцы. Разумныя людзі ведалі ўжо тады, што для добрага афармлення справы патрэбная падмазка. Ім удалося нагаварыць вяскоўцаў зрабіць складчыну і ўручыць такі падарунак землямеру Туры. І мелі рацыю, Туры вельмі спадалалася такая ўвага да яго асобы. Ён падарунак прыняў, але і вельмі сумленна пачаў старацца адплаціць піліпкаўцам за гэты хабар. Магчымасці ж у такога землямера былі вялікія, тым больш, што за ўласныя карысці плаціў ён не сваім дабром. Такая форма адплаты была заўсёды і ёсць найбольш цікавай і пажаданай.

Перад маімі былымі аднавяскоўцамі пачалі адкрывацца добрыя перспектывы. Яны пачалі, як цяпер кажуць, браць свой лёс у свае рукі. Гэты мужыцкі лёс проста пхаў іх у рукі Туры. Апрача ўсіх іншых выгад, Тура рашыў надзяліць іх і ўласным лесам, хаця блізка нашай вёскі яго і не было. І думаю, так яно і сталася б. Але...

Але, як было ўжо сказана, у тагачаснай нашай вёсцы жылі таксама і неразумныя людзі. Калі ў час адной чарговай папойкі не стала сродкаў далей прадаўжаць яе, камусьці з выпівох прыйшла ў галаву геніяльная думка — адабраць ад Туры падарак і прапіць яго. Як падумалі, так і зрабілі — падарак адабралі і аптымістычна прапілі яго. Відаць, было такіх нямала, і не ведалі няшчасныя алкашы, што гэтым разам прапівалі не толькі сваю, але і нашчадкаў сваіх долю...

Ці і мой шаноўны продак быў у гэтай вясёлай кампаніі, не ведаю. Мне хацелася б, каб яго там не было.

Гэта выхадка маіх продкаў не спадабалася Туры, вельмі не спадабалася. У злосці ён сказаў: „Zapamiętacie Turę wy i wasze dziatki". І трэба сказаць, што абяцанне сваё стрымаў. Пачаў псаваць даслоўна ўсё, што яшчэ можна было сапсаваць. Лес наш хуценька накрыўся. Сенажаць была перанесена на абодва бакі ракі Нарвы за дванаццаць кіламетраў бездарожжа ад вёскі. Блізкімі ад вёскі сенажацямі былі надзелены суседнія вёскі. Адным словам, нарабіў нам Тура шкоды нямала.

Што значыць селяніну жыць без уласнага лесу і з так адлеглым ад дома сенакосам, можа зразумець толькі той, хто сам так жыў.

Вось якую высокую цану плаціць ужо каторае пакаленне маіх родзічаў і аднасяльчан за дурноту некаторых сваіх продкаў і нячэснасць аднаго чыноўніка, бо як правільна кажуць, што запісана пяром, таго не вырубаеш тапаром.

І не дзіва, што Туру і звязаны з ім інцыдэнт запомнілі не толькі нашы продкі-арыгіналы з часоў рэформы і іх дзеткі, але і далейшыя пакаленні. Рэформа праводзілася ў часы майго прадзеда, а я, праўнук яго, і маё пакаленне дасканала ведаем аб гэтым.

***(працяг будзе)***

**Васіль Сакоўскі**

## ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

**12 мая**

1670 г. — нар. Аўгуст II Моцны, польскі кароль.

1884 г. — памёр Беджых Сметана, чэшскі кампазітар.

1926 г. — дзяржаўны пераварот у Польшчы ўстанавіў дыктатуру Юзафа Пілсудскага.

1935 г. — памёр Юзаф Пілсудскі, польскі палітык.

1970 г. — памёр Уладзіслаў Андэрс, польскі генерал.

1970 г. — у Румыніі выпалі вялікія дажджы. Утапілася больш за 200 чалавек, паводка поўнасцю знішчожыла ўраджай.

**13 мая**

1909 г. — пачатак першай велагонкі *Giro d'Italia*. Да 8-этапнага спаборніцтва даўжынёй 2488 кіламетраў прыступіла 127 гоншчыкаў.

1912 г. — заснавана першая ваенная авіяцыя — брытанская *Royal Air Force*.

1950 г. — нар. Стыў Уондар, англійскі спявак.

1972 г. — у пажары універмага ў Осацы загінула 117 чалавек.

1981 г. — на плошчы Св. Пятра ў Рыме папа Іаан Павел II цяжка паранены з пісталета турэцкім тэрарыстам Мехматам Алі Агцам.

**14 мая**

1643 г. — на французскі трон узышоў 14-гадовы Луі XIV.

1796 г. — брытанскі лекар Эдвард Джэнер выканаў першую супрацьвоспавую прывіўку.

1948 г. — Давід бен Гурыён аб'явіў паўстанне дзяржавы Ізраіль.

1955 г. — Албанія, Балгарыя, Венгрыя, ГДР, Польшча, Румынія, СССР і Чэхаславакія заключылі Варшаўскі дагавор.

1962 г. — у Афінах адбыўся шлюб грэчаскай прынцэсы Сафіі з іспанскім наследнікам трона Хуанам Карласам.

**15 мая**

1567 г. — нар. Клаўдзій Мантэвердзі, італьянскі кампазітар.

1859 г. — нар. П'ер Кюры, французскі фізік, заснавальнік радыехіміі.

1948 г. — арабскія войскі напалі на дзень раней створаную дзяржаву Ізраіль; пачатак першай ізраільска-арабскай вайны.

1955 г. — чатыры вялікія дзяржавы заключылі дагавор аб поўным суверэнітэце Аўстрыі.

1988 г. — пачатак вываду савецкіх войск з Афганістана.

**16 мая**

1881 г. — у Берліне ўведзена ў карыстанне першы ў свеце электратрамвай.

1920 г. — кананізацыя Іаанны д'Арк, французскай нацыянальнай гераіні.

1929 г. — у Галівудзе ўпершыню прызнана прызы *Oscar*.

**17 мая**

1606 г. — забойства Ілжэдзімітрыя, прытворнага сына цара Івана IV Жахлівага. На маскоўскі трон узышоў Васілій IV Шуйскі.

1809 г. — папа Пій VII аблажыў экскамунікай Напалеона Банапарта, які прылучыў да Францыі рэшткі папскай дзяржавы.

**18 мая**

1920 г. — нар. Караль Вайтыла, пазнейшы папа Іаан Павел II.

1937 г. — нар. Жак Сантэр, люксембургскі палітык.

1940 г. — нар. паэт Ян Чыквін.

1944 г. — здабыццё Монтэ-Касіна ў Італіі.

1969 г. — запуск касмічнага карабля *Apollo-10*, які наблізіўся да паверхні Месяца на 14 км. **(Ш)**

## ВЕР — НЕ ВЕР

Сніцца мне, што мая дачка нарадзіла дачушку (яна цяжарная). Быў гэта панядзелак і я не пайшла на работу, ды і ў аўторак з раніцы не было мяне на рабоце. Усё гэта з-за тае ўнучкі! Прыйшла я каля абеду і адразу іду да персанальнай, каб лісту падпісаць. Уваходжу ў пакой, а там кантралёр правярае спісак. Пры ім стаіць кіраўнічка аддзела кадраў. Яна глянула на мяне і зразумела, што з-за мяне яна можа мець непрыемнасці. Я хутка падышла і пачала тлумачыцца, што гэта ўсё з увагі на ўнучку, бо ж у нас да гэтай пары ўсё ўнукі радзіліся. А то дзяўчынка. Ды кажу, што я на гэтыя два дні водпуск вазьму.

**Марыя**

Знаходжуся ў 60 км ад дома ў чыстым полі. Ляжыць на зямлі маё адзенне, мяшок з бульбаю. А я трымаю ў хустачцы грошы — вельмі многа грошай. Падышло да мяне двух мужчын і забралі ўсё. Я асталася без нічога. Расплакалася. Як я зайду дадому, то ж так далёка, а я без граша. І ежы няма за што купіць.

**Кацярына**

Марыя! Мяркую, што твой сон абсалютна навеяны рэчаіснасцю. Ты марыш пра тое, каб твая цяжарная дачка нарадзіла дзяўчынку, бо ў цябе дагэтуль былі адны ўнукі, і гэты факт накідае табе такі ход падзей у сне. Усё — як у жыцці: баішся, каб не спазніцца на работу, не хочаш мець прыкрых уваг ад кадравіка, і перажываеш, каб і яна не мела з-за цябе непрыемнасцей. Ужо бачыш тую ўнучку ў сне. Ой, глядзі, каб не быў хлопчык. Часта бывае так, што сніцца супрацьстаўнае да рэчаіснасці.

Кацярына! Цябе таксама не магу я занадта пацешыць. Чаму на зямлі ляжыць тваё адзенне? Чаму тыя мужчыны забралі ў цябе тыя грошы? Баюся, што ў выніку насілля нехта забярэ ў цябе радасць і надзею на добрае, заможнае жыццё.

**Астрон**

## Май

**Май** апошні месяц вясны. Беларуская назва яго, як і сучасная украінская — **травень**. Ужываемая беларуская і руская назва паходзіць ад лацінскага **Maius** (магчыма, імя багіні зямлі Маі). Па-чэшску **květen**, па-верхнелужыцку — **róžownik**. Сярэдняя тэмпература паветра ў маі 12—14°C, яе максімум дасягаў 34°C у 1892 і 1898 г.г., мінімум — -8°C (1918 г.). Да сярэдзіны месяца звычайна спыняюцца начныя замаразкі.

Тэмпература вады рэк 13—16°C, ставаў і азёраў 11—13°C. У маі характэрны зварот халадоў, якія наступае пасля цёплых дзён з тэмпературай 15—20°C („чаромхавыя халады"). Адносная вільготнасць паветра 68—72%. У маі бываюць моцныя вятры, пылавыя буры. **(яц)**

## Моцная пара

Саша пазнаёміўся з Данкай, калі яшчэ быў у арміі. Атрымаў выхадныя, выйшаў з часці і на аўтобусным прыпынку прыкмеціў прыгожую бландзінку. Дзяўчына ўзіралася ў яго блакітнымі вачыма і ўсміхалася. Пакуль прыйшоў яго аўтобус, памяняліся з Данкай адрасамі. Дома Саша не мог знайсці спакою, сніў на яве, аж сказаў бацькам, што закахаўся і думае ажаніцца з Данкай.

— Ой, Божа мой, Сашыку! — загаласіла маці. — Ты думаеш, што „мазурка" будзе табе добрай жонкай? Яна ж да смерці будзе цябе абзываць кацапам!

— Калі хочаш ісці ў касцёл, не прыходзь больш да нас дахаты! — крычаў бацька.

Саша адказаў, што ў касцёл не пойдзе, але з Данкай ажэніцца насуперак усяму ў свеце.

Данка была родам з Варшавы, у Быгдашчы тады была ў гасцях у цёткі. Дзяўчыне таксама спадабаўся чарнявы жаўнер. Напісала яму ліст. Саша наведаў яе ў Варшаве. Данчыны бацькі, даведаўшыся аб Сашавай сям'і і яго веравызнанні, нават слухаць не хацелі пра такое замуства сваёй адзінай дачкі. Данка плакала, што пойдзе толькі за Сашу, а і ён сказаў, што зробіць усё, каб быць разам з каханай. Рашылі ўзяць толькі „цывільны" шлюб. Бацькі і Данчыны, і Сашавы выракліся дзяцей і рашылі ні ў чым ім не дапамагаць.

Данка працавала ў кавярні афіцыянткай. Сашу было цяжка знайсці якуюколеч працу, бо не меў, апрача пачатковай, ніякай школы — бацькі бачылі яго як наследніка на гаспадарцы.

Маладыя нанялі маленькі пакойчык. Праз пару тыдняў пайшлі ў загс запісацца.

Спачатку нялёгка ім было. Нарадзілася двое дзяцей — вазілі іх у яслі, пасля ў садок. Данка далей працавала ў кавярні, Саша працаваў і завочна вучыўся. Калі паспяхова закончыў электрычны факультэт палітэхнікі, якраз атрымалі кватэру ў блёку.

— Я ведаў каго пакахаць, — кажа Саша. — Нам добра. Нашы бацькі цяпер бачаць, як добра, што мы тады сябе сустрэлі і нічога не пабаяліся.

**Аўрора**

## Крыжаванка

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | ■ | 2 | ■ | 3 | ■ | 4 | | 5 | | 6 | |
| 7 | | | | | | | ■ | | ■ | | ■ |
| | ■ | | ■ | | ■ | 8 | | | | | |
| 9 | | | | | | | ■ | | ■ | | ■ |
| | ■ | | ■ | | ■ | 10 | 11 | | 12 | | 13 |
| 14 | 15 | | 16 | | 17 | ■ | | ■ | | ■ | |
| ■ | | ■ | | ■ | 18 | | | | | | |
| 19 | | | | | | ■ | | ■ | | ■ | |
| ■ | | ■ | | ■ | 20 | | | | | | |
| 21 | | | | | | ■ | | ■ | | ■ | |

**Гарызантальна:** 4. чорная таполя, 7. прэзідэнт ЗША, 8. дзяржава ў Еўропе, 9. месца вайсковых трэніровак, 10. прыбор, 14. знявага, 18. месяц посту ў мусульман, 19. на ёй газеты, 20. горад на поўначы Беларусі, 21. дзяржава з кляновым лістом у гербе.

**Вертыкальна:** 1. выкуп з мэтай перапродажу, 2. нямецкі нацысцкі дыктатар, 3. усходняя халодная зброя з крывым лязом, 4. жаночае імя або горад у Грэцыі, 5. горад на поўдні Турцыі, 6. грэчаская багіня мудрасці, 11. важная часць камп'ютэра, 12. узор выразаны на цвёрдым матэрыяле, 13. старажытнарымскае адзенне, 15. сказ, 16. напр. „Кармен", 17. расце на сенажаці. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку з 11 н-ра:

**Гарызантальна:** банк, Алтай, алегра, Каін, старт, страха, арматура, радны, Амазонка, Браніцкі, байка, гасцінец, какаду, Цэзар, ключ, каўнер, порах, эмір.

**Вертыкальна:** клетка, Байран, абаранак, Кансу, зебра, фрахт, Трынідад, трызубец, рыба, джаз, гной, сава, Місісіпі, ацэтон, Кранах, гараж, Ганна, Сукрэ.

Кніжныя ўзнагароды высылаем: **Аліне Мялешка і Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

## ПАРНАСІК

### Вясна

Пра цябе пісаць цяжка і лёгка,
Ты для мяне радасць і духовая палёгка.
Пра цябе пісаць — я не мастак,
Бо ў мяне многа чаго брак.
Так, як ты, я не развіваюся,
Часта ў маразме і без веры прачынаюся.
Жыву штучна парою,
Так, як над магілаю сваёю.
Гатоў уляцець у яе;
Ды сэрца маё пакуль б'е.
Многа чаго не хапае,
Ды Бог ласку і любоў пасылае,
Каб мы скарысталіся гэтай данінай:
Нястрашны былі б смерць і дамавіна.
Бог даў кожнаму дар,
Гэта радасць, а не пажар.
А ці выкарыстаем гэта ў час?
Нам трэба ісці да царквы і да мас.
Вясна прыходзіць і адыходзіць,
Яна мо часта і сваволіць.
Бо гэта прырода
І яе частая мода.
Вясна павінна ў сэрцы пасяліцца
І ў душы нашай ажывіцца.
І ніколі ад нас няхай не адыходзіць —
Паселіцца навечна і да другіх прыходзіць.
Пісаць таленту я не маю,
Але як умею Бога і беларусаў праслаўляю.
Каб у гэтым мне не пахіснуцца
І ад духоўнай спячкі прачнуцца.

**Мікалай Панфілюк**

**Ніва**

„Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 421-033.
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраповіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1996 r. upływa 5 czerwca 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 starych zł), a kwartalnie — 18,85 zł (188 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

# Ніўка

## Купанне

Улез я ў ванну пакупацца,
І вады да паловы наліў.
Давай я мыццём сваім захапляцца,
Быццам у ванне ніколі не быў.

Ляжу я спакойна, прыемна і міла,
А пена бушуе, паціху шуміць.
Яна чысценька мяне памыла
І так мне на вуха шыпіць:

— Залазь, чалавеча, у ванну часцей
І цела сваё абмывай,
А стане табе намнога лягчэй,
Не будзеш ты тоўсты такі — як бугай.

Пачуўшы такое ў вадзе я падскочыў,
Быццам бы штосьці мяне запякло.
Нават і пена з мяне ўжо рагоча,
Што з мяне такое тоўстае бервяно.

Як я не вылезу, не страсянуся,
Бегаць па хаце давай.
Вось мяне пена жа абазвала,
Што я нібыта бугай.

Бегаў я, бегаў, аж утаміўся.
Ад злосці зарадку зрабіў.
На пену так моцна я абразіўся,
Што нават паесці забыў.

А пена зноўку шыпіць мне у вуха:
— Бегай паболей, купайся часцей,
Еш памяркоўна, не набівай бруха,
А станеш выглядаць прыгажэй.

Ніна Мінько




*Малюнак М. Сеўлюка*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Паліцыянт вяртаецца з працы і ўжо ад парога крычыць:

— Каханая, атрымаў я білеты на „Лебядзінае возера", пойдзем вечарам.

Пасля абеду бачыць, што жонка збірае крышынкі ў папяровую торбачку.

— Навошта гэта робіш? — пытае.

— Калі ідзем на „Лебядзінае возера", дык для птушак.

— Дурніца ты, гэта ж балет, танцоркі танцуюць...

— Бач ты, які мудры знайшоўся... А як ішлі на „Вяселле" Выспянскага, то хто прыхапіў бутэльку гарэлкі?

* * *

— Ці не бачылі дзе тут паліцыянта?

— Не.

— Дык давай грошы!

* * *

Жонка, толькі што атрымаўшая вадзіцельскія правы, вядзе аўтамабіль:

— Глянь Коля, што гэта за людзі! Гэты мужчына ўжо цэлую мінуту бяжыць перад нашым самаходам, быццам хоча, каб яго пераехаць. Што маю зрабіць?

— З'едзь з тратуара.

* * *

Падчас імшы ксёндз гаворыць палымяную пропаведзь. Усе плачуць, толькі адзін чалавек нават слязы не пусціў.

— Чаму вы не плачаце? — пытае ксёндз.

— Бо я з іншага прыхода.

* * *

Ксёндз з рабінам сустрэліся пры застоллі. Ксёндз прапануе рабіну гарэлку і шынку:

— Частуйцеся.

— Не магу.

— Чаму?

— Мая рэлігія забараняе.

— А шкада, бо гэта вельмі добрая справа, ой добрая.

Гасціна закончылася. Рабін развітваецца з ксяндзом:

— Перадайце прывітанні вашай жонцы...

— Не маю жонкі.

— Чаму?

— Мая рэлігія гэтага забараняе.

— А шкада, бо гэта вельмі добрая справа, ой добрая.

Яўген Дудар

## Незвычайны канфлікт

Дом, у якім я жыву, каля дарогі. Вокнамі на вуліцу.

Прыбягае дворнік:

— Зараз жа знімі штаны!.. З балкона. Дэлегацыя едзе. З Гандураса.

— А што, — кажу, — могуць украсці? Ці мае штаны так уплываюць на міжнародную палітыку?

— Від псуюць твае штаны.

— Нібыта ў Гандурасе, — кажу, — штаноў не сушаць... Ды і балкон мой на шаснаццатым паверсе. Ці ж той гандурасец будзе да маіх штаноў на верталёце падымацца? Ці ў бінокль разглядаць? А нават калі б і разглядваў. Што ён на тых штанах пабачыць? Ці ж гэта — карта сакрэтных аб'ектаў?

Не зняў я тых штаноў. Бо заўтра трэба было мне ў іх на работу ісці. А ў мяне радыкуліт. Не дай Божа, штонебудзь вільготнае надзець. Злягу. На работу не выйду. Плана не выканаю. Хлеба не напяку. Чым таго гандураса карміць будзем?

Канфлікту ў мяне з Гандурасам не атрымалася. Пачаўся канфлікт з адміністрацыяй. Мяне аштрафавалі. За парушэнне грамадскага парадку.

Папрасіў у сына карту. Падзівіўся, дзе той праклятьі Гандурас. Прападзі ён пропадам! Гэта ж за які свет яму трэба было ехаць, каб з мяне за яго штраф здзерлі!.. А краін колькі... Гэта ж калі за кожную мяне штрафаваць будуць, у мяне не будзе чаго сушыць... Трэба нешта думаць.

І я прыдумаў.

Зашкліў балкон.

Прыйшлі з адміністрацыі:

— Зараз жа разбярыце! Забаронена! Супрацьпажарнымі нормамі, санітарнымі нормамі, архітэктурнымі нормамі... Прытым, сваім відам вы псуяце навакольны краявід...

— Па-першае, я падпальваць сваю кватэру не збіраюся. Па-другое, па якіх нормах вось той заводскі дымар чадзіць мне прама ў акно? Па-трэцяе, чаму архітэктар сам не падумаў, дзе я магу сушыць штаны? А па-чацвёртае, мая суседка сваім відам яшчэ больш псуе навакольны краявід. Вунь, паразвешвала. Розных фасонаў і розных эпох.

— Суседка, — кажуць, — з боку двара. І з вуліцы не відаць.

— Дык жа з космасу бачна... Вунь спадарожнікі ўсялякія лятаюць... Іншапланецяне могуць убачыць... Што пра наш дом падумаюць?

Аштрафавалі.

Разабраў.

Але жыццё ёсць жыццё, і штаны ёсць штаны. Зноў павесіў іх на балкон, і зноў прыбег дворнік:

— Знімі зараз жа! Начальнік адміністрацыі загадаў. Дэлегацыя едзе.

— Няўжо, — кажу, — едзе Кацярына Другая, што начальнік бегае, як Пацёмкін?

— Не, з Зімбабве...

...І чаго яны так навастрыліся на мае штаны?..

*З украінскай пераклаў Уладзімір Правасуд*

# Сардэчныя тайны

Даражэнькае Сэрцайка! Я вучуся ў ліцэі. Ёсць у мяне шмат сяброў і сяброўак. Дальбог, няма ў мяне „свайго" хлопца. Усе мне яны нейкія аднолькавыя здаюцца. Але не магу сказаць, што я не люблю кампаніі. І таму ахвотна сустракаю на сваім парозе гасцей, асабліва тады, калі маю час і нічога не вісіць над галавою. Ну, вядома, найбольш свабоднага часу бывае, калі пачынаюцца канікулы.

Лёнік наведаў мяне нечакана, якраз я тады рабіла парадкі ў хаце. Яму гэта зусім не перашкаджала: сядзеў і глядзеў на мяне, а я ж мусіла прынамсі скончыць мыць падлогу. Апранутая я была ў простую, але даволі густоўную крэтонавую сукеначку: чорную і ў ружачкі колеру ласося, а каўнерык і манжэты былі закончаны ружовым матэрыялам у адценні ласося.

І так я гэту падлогу мыю, а ён прыглядаецца мне і расказвае пра ўсе навіны. Вядома, Сэрцайка, што ён застаў мяне ў нязручнай сітуацыі — пасярэдзіне пакоя стаяла міска з вадою, ды і трэба ж было нахіліцца да самай падлогі, а я ў сукенцы, дык не дзіва, што мне было крыху няёмка. Часамі я падымала галаву і, апусціўшы вочы, сарамліва ўсміхалася.

Хлопец, здаецца, няправільна зразумеў мяне. Пачаў выцягваць ад мяне прызнанні ў каханні, якога не было. Ну, нічагуткі не адчувала я ў адносінах да гэтага хлопца. А ён нахабна кажа мне: „Ну, не саромейся, прызнайся, я ж бачу, што ты мяне кахаеш!"

Я пачала тлумачыць яму, што ніколі нічога падобнага не сцвердзіла ў адносінах да яго. Павер мне, кажу, што ты мне вельмі падабаешся як сябар, а гэта ж не ўсё роўна!

„Ну, не гавары, не гавары, бадай жа не падабаюцца табе ўсе сябры так, як я?!!" — не здаваўся мой госць.

„А вось жа якраз так, як і ты", — не здавалася я.

„Ха-ха-ха!" — зарагатаў іранічна хлопец і на нейкі час замоўк. Я тым часам выцерла насуха падлогу.

Пайшла я, крыху памылася, пераапранулася і заварыла гарбату. Сядзім ля малога століка, п'ем гарбату, а ён ніяк не можа суняцца. „Ну, але прызнайся, — кажа, — што нешта ўсё ж было!"

Я, як апошні дурань, ізноў пачала тлумачыць яму, што нічога не было і няма. Думаеш, я б саромелася яму сказаць, што я яго кахаю, ці прынамсі, як ён сказаў, „нешта было"?! Пэўна, думаў, што яго ўсе дзяўчаты кахаюць, прыгажунчык гэты. Ну, не магла я яму сказаць няпраўду. Бацькі мае вучылі мяне шчырасці і адкрытасці. Не, не буду яму гаварыць ні пра цяпер, ні пра тое, што было раней. „Ой, — кажу я, — як жа ты мог пра такое падумаць..."

Хлопец быў вельмі самаўпэўнены, і яму і ў галаву не прыходзіла думка, што я не жартую. Быў перакананы, што дзяўчаты да сваіх пачуццяў прызнавацца не любяць. Гэта ён, магчыма, меў нейкія пачуцці да мяне і няўмела шукаў водгуку ў маім сэрцы. Ну, бо інакш навошта быў бы яму той зандаж...

Калі Лёнік выйшаў ад мяне, засталася ў мяне нейкая аскома. Было непрыемна і крыўдна ад таго, што ён мне не паверыў. Я сваіх пачуццяў не баюся і, як толькі пакахаю нейкага хлопца, не буду ад яго гэтага скрываць.

Галіна

Галінка! Але і дэманстраваць свае пачуцці занадта адкрыта не варта — нават, калі і сапраўды закахаешся. Хлопцы любяць таямнічых дзяўчат, прыцягвае іх тое невядомае, няўпэўненасць. Калі замнога і занадта адкрыта гаварыць пра каханне, хутка яно прысеца. Дзяўчыны часта хаваюцца са сваім вялікім каханнем, баючыся, што хлопец пойдзе шукаць іншую (гэта ўжо мая!). Відаць, Лёнік гэтую ж мерку прылажыў і да цябе.

А табе не трэба было апраўдвацца. Наадварот, варта было б сказаць, што кахаеш яго больш за жыццё. З іранічнай усмешкай, вядома.

Сэрцайка